◂ № 42 (363) ◂ 8 лістапада ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

Стар. 6

**УЛАДАМ ПАТРЭБНЫ ІНШЫ НАРОД?**

У Беларусі нестае грошай, каб пракрэдытаваць набыццё жылля для ўласных грамадзянаў. Але ў той жа час мы гатовыя забяспечыць жыллём і працай «добрых туркменскіх хлопцаў»

Стар. 5

**ПАСЛЯ ВЕСТЭРВЕЛЕ**

Нямецкія хрысціянскія дэмакраты пачалі перамовы з сацыял-дэмакратамі. Ці зменіцца ўсходняя палітыка ФРГ пасля прыходу ў нямецкі МЗС сацыял-дэмакратаў?

Стар. 11

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА: Я БЫЎ ЗВЫЧАЙНЫМ ПАЛЯВЫМ КАМАНДЗІРАМ**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

**ПУБЛІЦЫСТУ АЛЯКСАНДРУ ТАМКОВІЧУ — 50 ГОД!**

**ШЧЫРА ВІНШУЕМ!**

З НАГОДЫ




# АПОШНІ ПРАДПРЫМАЛЬНІК

Сяргей ПУЛЬША

**Колькі ўжо разоў Аляксандр Рыгоравіч кляўся і бажыўся пацiснуць руку апошняму прадпрымальніку! Як толькі іх ні душылі: і падаткамі, і арэндай, і праверкамі, і сертыфікатамі, і ліцэнзаваннем…**

Зразумела, прадпрымальнікі ўжо даўно не чакаюць ад беларускай улады нічога добрага. Зараз прадпрымальнікам нанеслі чарговы ўдар у спіну.

Нагадаем, тэхрэгламент Мытнага саюза, згодна з якім тавары лёгкай прамысловасці мусяць праходзіць абавязковую сертыфікацыю, павінен быў уступіць у дзеянне з 1 чэрвеня гэтага года. Але прадпрымальнікі справядліва наракалі на тое, што працэдура сертыфікацыі вельмі дарагая і груваcткая. Да таго ж, чамусьці праходзіць яе ў Беларусі павінны менавіта прадпрымальнікі, а не вытворцы прадукцыі, у якіх прадпрымальнікі закупаюцца. І плаціць за гэтую сертыфікацыю павінен таксама прадпрымальнік.

Чамусьці вытворцы тавараў лёгкай прамысловасці краін ТС гэты тэхрэгламент не праходзяць. Не праходзяць яго буйныя аптавікі, напрыклад, Масквы, дзе «затарваюцца» беларускія ІП. Не праходзяць працэдуру тэхрэгламента і прадпрымальнікі Расіі і Казахстана — нягледзячы на тое, што і яны таксама ў Мытным саюзе. А вось нашы чыноўнікі вырашылі, што беларусы павінны быць вельмі законапаслухмянымі.

Улетку гэтага года прадпрымальнікі ўжо выказалі сваё меркаванне з нагоды тэхрэгламента ў ходзе папераджальнага страйку, які адбыўся 27 чэрвеня на многіх рынках і гандлёвых цэнтрах краіны. Страйк ахапіў шэсць абласных і 20 раённых цэнтраў, дзе пражывае 75% гарадскога насельніцтва краіны. У выніку ўрад крыху адумаўся: да 1 лістапада прадпрымальнікам дазволілі гандляваць і без тэхрэгламенту, а да 1 ліпеня 2014 года пакінулі спрошчаны парадак пацвярджэння адпаведнасці прадукцыі тэхрэгламенту.

Прадпрымальнікі сталі чухаць патыліцы над тым, як перайсці на новыя рэйкі працы. Але, як кажуць, «вераломна, без абвяшчэння вайны» не хто іншы, як старшыня Савета па развіцці прадпрымальніцтва Пётр Пракаповіч заявіў, што выконваць тэхрэгламент прадпрымальнікі павінны будуць ужо з 1 снежня 2013 года. Маўляў, усё для гэтага ўжо гатова, засталося толькі ўнесці праўкі ў заканадаўства.

Гэта нягледзячы нават на тое, што за беларусаў заступілася Еўразійская эканамічная камісія. Яна выказалася ў тым рэчышчы, што ў Беларусі «неабгрунтавана пашырана вобласць прымянення» тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці». Гэта зафіксавана ў выніковым пратаколе першага сумеснага пасяджэння падкамітэтаў ЕЭК, якое прайшло 2 жніўня ў Маскве.

На гэтым пасяджэнні выступіла спецыяліст дэпартамента тэхнічнага рэгулявання ЕЭК, саветнік аддзела тэхнічных распрацовак Антаніна Галаўцова, якая заявіла, што суб'ектамі рэгулявання тэхрэгламентаў з'яўляюцца толькі дзве катэгорыі — імпарцёры і вытворцы, а ніяк не раздробны гандаль. Такім чынам, прадпрымальнікі ўвогуле пад тэхрэгламент не падпадаюць. Але беларускі ўрад спрабуе прымусіць прадпрымальнікаў плаціць за тое, што іх не тычыцца.

Чаму так робіцца? Зразумела, знішчаючы прадпрымальнікаў, урад імкнецца разгрузіць склады. Урадавыя аналітыкі, верагодна, лічаць, што напярэдадні навагодніх святаў адсутнасць на рынках звыклага асартыменту прымусіць беларускіх грамадзян купляць дарагія аналагі мясцовай вытворчасці, што станоўча адаб'ецца на колькасці складскіх запасаў. Аднак наўрад ці ўсе тыя, хто не знойдзе патрэбны тавар на рынку, адразу кінуцца «купляць беларускае». Хутчэй, вельмі ўдалыя часы чакаюць літоўскія і польскія гандлёвыя цэнтры. «Озасы» і «Акропалісы» могуць спадзявацца на наплыў беларускіх пакупнікоў, якія будуць вывозіць валюту з краіны, каб закупіцца навагоднімі падарункамі на тамтэйшых распродажах.

А беларускія прадпрымальнікі з 1 снежня 2013 года могуць проста вымушана спыніць працу.

Тое, што яны спыняць працу, не сумняваецца амаль ніхто. Напрыклад, старшыня Каардынацыйнага савета прадпрымальнікаў Мінска Алесь Макаеў кажа, што ўвядзенне тэхрэгламенту проста робіць немагчымай працу прадпрымальнікаў. «Тут альбо спыненне працы, бо ніякага часу і грошай не хопіць на тое, каб сертыфікаваць кожную партыю тавару ў колькасці пяці штук, альбо праца па-за межамі закона: без папераў і дакументаў. А гэта можа балюча адгукнуцца самім прадпрымальнікам», — лічыць Макаеў.

Што ж тычыцца аргумента кшталту «разгрузкі складоў», то Макаеў не ўспрымае яго ўсур'ёз. «Паглядзіце, з кожным годам павялічваецца колькасць цягнікоў і аўтобусаў, якія ідуць у напрамках Польшчы, Літвы, Украіны. Што, нашы людзі масава едуць адпачываць туды на адзін-два дні? Да таго ж кожны можа паглядзець у інтэрнэце, якія штодня чэргі праз мяжу на літоўскім і польскім напрамках. Гэта само за сябе кажа, што і дзе набываюць нашы грамадзяне», — адзначае прадпрымальнік.

Спыненне ж працы прадпрымальнікаў моцна ўдарыць не толькі па грамадзянах, якія ламануцца праз мяжу, і, адпаведна, па мытніках і памежніках. І не толькі створыць напружанасць у аддзелах па беспрацоўі, куды прадпрымальнікі пойдуць «шчыльнымі радамі». Гэта яшчэ раз ударыць па і без таго ўбогім бюджэце краіны.

Два тыдні таму прэс-служба Міністэрства па падатках і зборах з задавальненнем адзначала, што толькі ў Мінску паступленні падаткаў і збораў ад індывідуальных прадпрымальнікаў за дзевяць месяцаў 2013 года выраслі на 42,5%. Па стане на 1 кастрычніка на ўліку ў падатковых органах Мінска знаходзілася 68 118 індывідуальных прадпрымальнікаў, ад якіх паступіла падаткаў і збораў на 683,9 мільярда рублёў. Такім чынам, толькі прадпрымальнікі Мінска здалі ў бюджэт каля 75 мільёнаў долараў.

Калі хаця б палова з прадпрымальнікаў спыніць працу 1 снежня, то за месяц прыйдзецца істотна скарэктаваць бюджэт краіны на ўсё яшчэ бягучы год. А бюджэт–2014 увогуле можна лічыць банкрутам.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. У МІЛІЦЫЮ ВЫКЛІКАЮЦЬ АПАЗІЦЫЯНЕРАЎ ЗА ДЗЯДЫ

**Намеснік старшыні АГП Васіль Палякоў атрымаў позву ў Навабеліцкі РАУС. 10 лістапада ён павінен з'явіцца да начальніка аддзелу грамадскага парадку Хількевіча. Вядома, што шукалі для ўручэння позвы і іншых гомельскіх апазіцыянераў.**

Васіль Палякоў звязвае выклік у міліцыю з удзелам у акцыі памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, якая прайшла ў Гомелі 3 лістапада. Актывісты апазіцыйных партый усклалі кветкі і вянкі, запалілі зпічы каля пакутных крыжоў, якія ўсталяваны на месцах масавых забойстваў людзей у гады сталінскіх рэпрэсій. Таксама ўдзельнікі акцыі правялі добраўпарадкаванне тэрыторыі, пафарбавалі крыжы. Акцыя прайшла пад бел-чырвона-белым сцягам.

Варта заўважыць, што мясцовыя дэмакраты ладзяць акцыі памяці на гэтых месцах штогод, але да гэтага часу іх у міліцыю не выклікалі.

### ПІНСК. ПРАФСАЮЗЫ СУПРАЦЬ ЗНІЖЭННЯ ЎЗРОЎНЮ САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ

**Прафсаюзны камітэт Пінскага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі прыняў заяву аб недапушчальнасці неабгрунтаванага зніжэння дапамог па часовай непрацаздольнасці, а таксама па цяжарнасці і родах.**

Катэгарычную нязгоду выклікала пастанова беларускага ўрада №569, дзе гаворка ідзе пра новыя правілы выдачы і аплаты лістоў непрацаздольнасці. Згодна з дакументам, павялічваецца колькасць дзён, якія аплочваюцца ў памеры 80% сярэднядзённага заробку, а разліковы перыяд будзе складаць ужо шэсць месяцаў (замест ранейшых двух). На думку пінскіх прафсаюзных актывістаў, змены парадку разлікаў дапамог па цяжарнасці і родах значна зніжаюць сацыяльную абароненасць працоўных і вядуць да памяншэння існуючых гарантый. У заяве, падтрыманай прафсаюзным камітэтам Пінскага ЖКГ, гаворыцца пра неабходнасць ініцыяваць унясенне змяненняў і дапаўненняў у пастанову ўрада №569 з захаваннем працэдуры прыняцця нарматыўна-прававых актаў, якія закранаюць сацыяльна-працоўныя і эканамічныя інтарэсы работнікаў. У іншым выпадку такі дакумент мусіць быць адменены.

### ГЛЫБОКАЕ. ЖЫХАРОЎ ПАЗБАВІЛІ МАГЧЫМАСЦІ ПРАВОДЗІЦЬ МАСАВЫЯ АКЦЫІ

**Райвыканкам вырашыў унесці змены ў сваё рашэнне наконт арганізацыі масавых мерапрыемстваў — змяніць месца для іх правядзення.**

Высветлілася гэта, калі мясцовыя актывісты вырашылі зладзіць пікет салідарнасці з палітвязнямі. Паводле атрыманага імі ліста з адмовай, масавыя мерапрыемствы фактычна забароненыя на нявызначаны тэрмін.

Як напісана ў лісце за подпісам самога старшыні Глыбоцкага райвыканкаму Алега Морхата, змены ў ранейшае рашэнне райвыканкаму ўнесеныя 8 кастрычніка. Цікавае супадзенне: заяўка на пікет салідарнасці з палітвязнямі была пададзена 11 кастрычніка, і паведамленне пра тое, што выканкам мяняе месца для правядзення акцый, выйшла ці не ў той самы дзень.

«На афіцыйным сайце райвыканкама дзіўная храналогія: спачатку ідзе паведамленне пра нейкія падзеі 10 кастрычніка, а ўжо потым — пра змены ў рашэнні ад 8 кастрычніка. Чым выклікана неабходнасць нешта мяняць, таксама не тлумачыцца. І гэта дзіўна: ранейшае рашэнне №167 было прынята зусім нядаўна, 13 лютага 2012 года. Згодна з ім, месцам правядзення масавых акцый была вызначаная пляцоўка каля гарадскога дома культуры. Гэтае месца і было пазначана ў заяўцы», — каментуе сітуацыю актывіст кампаніі «Гавары праўду» Яраслаў Берніковіч.

Цяпер месцам правядзення масавых акцый Глыбоцкі райвыканкам абраў сквер на перасячэнні вуліц Леніна, Інтэрнацыянальнай, Палявой і Чырвоных партызанаў. Гэта актывісты прачыталі ў абвестцы на сайце райвыканкама. Старшыня райвыканкаму ў лісце пра забарону пікета пра новае месца не пісаў нічога. Затое зазначыў, што ў дадзены момант рашэнне ў новай рэдакцыі праходзіць юрыдычную экспертызу ў абласной управе юстыцыі, потым яно мусіць быць унесена ў рээстр дзяржаўных актаў. І толькі потым, калі не спатрэбіцца яшчэ нейкая праўка ці ўдакладненні, змененае рашэнне будзе надрукавана ў раённай газеце і ўступіць у законную сілу.

Пікет салідарнасці з палітвязнямі быў запланаваны на 23 лістапада. Відавочна, старшыня райвыканкама цвёрда ўпэўнены, што да таго часу зменёнае рашэнне яшчэ не будзе зацверджана і апублікавана — калі забараніў правядзенне акцыі ўжо зараз. І колькі яшчэ часу, адлічваючы з 8 кастрычніка, глыбачане не будуць мець магчымасці рэалізаваць сваё права на арганізацыю масавых акцый, застаецца невядомым.

Дарэчы, акцыі салідарнасці з палітвязнямі прадстаўнікі дэмакратычных сілаў збіраліся ладзіць штомесяц. І якраз 5 лістапада была падрыхтаваная чарговая заяўка.

**Інфармацыя падрыхтавана паводле сайту spring96.org**

---

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ДАШКЕВІЧ АСУДЖАНЫ НА ТРОЕ СУТАК

**Пра гэта напісаў на сваёй старонцы ў Фэйсбуку супрацоўнік прэс-службы Беларускай асацыяцыі журналістаў Барыс Гарэцкі, якому ўдалося трапіць на працэс над Дашкевічам.**

Справу разглядаў суддзя Валер Есьман з суду Цэнтральнага раёна, паведаміла «Радыё Свабода». Пра затрыманне былога палітвязня паведаміла на сваёй старонцы ў Фэйсбуку яго жонка Наста.

— Маладафронтаўцы зараз збіраюць подпісы за перайменаванне вуліцы Леніна. Усё было без эксцэсаў. А зараз пазванілў Зміцер і сказаў, што ў аўтобусе едзе ў цэнтральны РАУС. Як я зразумела, астатніх людзей ён выправіў і застаўся адзін, — піша Наста Дашкевіч.

Як паведамляе сайт mfront.net, 3 лістапада падчас акцыі «Дзяды» Малады Фронт распачаў збор подпісаў у Савет міністраў і Мінгарвыканкам з патрабаваннем распачаць дэкамунізацыю беларускага грамадства.

— Мэта гэтай кампаніі — данесці да як мага большай колькасці беларусаў праўду пра злачынствы камунізму, — гаварыў сустаршыня МФ Зміцер Дашкевіч.

Маладафронтаўцы хочуць вярнуць цяперашняй вуліцы Леніна яе гістарычную назву: вуліца Францысканская.

Яны лічаць, што «нягледзячы на многія і многія факты зладзействаў заснавальніка чырвонага тэрору Уладзіміра Леніна, ягоная асоба дагэтуль становўча прапагандуецца ў Беларусі, падаецца як прыклад для моладзі і ўсяго грамадства. На такім «прыкладзе» можна выхаваць толькі злачынцаў і вар'ятаў, мяркуюць аўтары кампаніі.

У падтрымку гэтай ініцыятывы на «Дзядах» яны распачалі збор подпісаў, які працягнулі 6 лістапада. Планавалася, што ў чарговую гадавіну камуністычнага перавароту падпісныя аркушы будуць перададзеныя ў Мінгарвыканкам і Саўмін.

**Паводле gazetaby.com**

---

ЖЫЦЦЁ

## ЧАРГОВЫ РЭЙД ПА СВІННІ

**У вёсцы Капцёўка Гродзенскага раёна 5 лістапада картэж з трох машынаў учыніў аб'езд усіх уладальнікаў свінняў. У машынах былі намеснік старшыні райвыканкаму Аксаміт, старшыня сельсавету, калгасны і раённы ветэрынарныя лекары і ўчастковы міліцыянт.**

З усіх дакументаў, што ў іх былі з сабой, — састарэлы спіс вяскоўцаў, у якіх маюцца свінні. Ад асобаў у гэтым спісе яны патрабавалі пазбавіцца ад усіх свінняў да 1 снежня. Ніякіх подпісаў не бралі, а папросту ставілі птушачкі насупраць прозвішчаў.

«У спісе ў мяне было пазначана 4 свінні, але насамрэч засталося толькі 3. Я ім сказаў, што магу забіць дарослую свінню, бо яна ўжо вырасла, але не парсючкоў. Я паведаміў, што магу аддаць іх толькі тады, калі ўлады заплацяць мне за іх годную цану, якую абяцаў Лукашэнка. Паколькі ж я заплаціў за парася 500 тысяч рублёў і яшчэ па 200 тысяч аддаў на камбікармы, то для мяне годная цана — 700 тысячаў за парася», — адзначыў каардынатар аргкамітэту БХД па Гарадзеншчыне Мікола Баўсюк, які жыве ў Капцёўцы.

На яго думку, рэйд на машынах быў арганізаваны, каб запужаць сялян.

**Прэсавая служба БХД**

---

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ЗНОЎ ЗАТРЫМАННІ НА АКРЭСЦІНА

**Аксана КОЛБ**

**6 лістапада супрацоўнікі міліцыі затрымалі дзевяць чалавек каля Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. У тым ліку журналіста НЧ Вячаслава Пяшко.**

Журналісты і грамадскія актывісты прыйшлі сустракаць гамяльчаніна Юрыя Рубцова. Юрый адбываў трое сутак адміністратыўнага арышту пасля акцыі 3 лістапада за майку з надпісам «Лукашенко уходи».

Затрыманыя (Павел Вінаградаў, Вольга Мікалайчык, Марына Цітова, Леанід Кулакоў, Аксана Сцяпанава, Юлія Сакалова, Настасся Рэзнікава, Вячаслаў Пяшко і зноў Юрый Рубцоў) некалькі гадзін знаходзіліся ў Маскоўскім РУУС. Пасля чаго ўсіх адпусцілі без складання пратаколаў аб затрыманні. Першым быў адпушчаны Юрый Рубцоў, з якога знялі майку.

Трэба адзначыць, што ў Маскоўскім РУУСе сваякам затрыманых паведамілі, што сюды іх не прывозілі.

Нагадаем, што ў ліпені яшчэ адзін наш журналіст, Дзмітрый Галко, быў затрыманы, пасля таго, як прыйшоў сустракаць з сутак Ігара Труханоівча. Дзмітрыя тады абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі і асудзілі на 10 сутак.

Апошнім часам стала ўжо своеасаблівай нормай, калі затрымліваюць тых, хто прыйшоў падтрымаць вязняў Акрэсціна. Такім чынам, відаць, улады збіраюцца збіць хвалю салідарнасці з палітвязнямі ў беларускім грамадстве.

---

7 ЛІСТАПАДА

## УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ АХВЯРАЎ

**Кіраўніцтва і актывісты «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» адзначылі трагічны для беларускага народу дзень 7 лістапада ўскладаннем кветак ахвярам злачыннага камуністычнага рэжыму.**

У прыватнасці, кветкі былі ўскладзеныя на Вайсковых могілках у Мінску да магілаў Янкі Купалы, які неадназова пераследаваўся камуністамі і загінуў ад іх рук у 1942 годзе, Кузьмы Чорнага, які правёў год у засценках НКУС, Якуба Коласа, якому неадназова пагражаў арышт і дом якога рэгулярнаператрасалі НКУСаўцы і іншых.

Пасля Вайсковых могілак кіраўніцтва БХД наведала мемарыял «Курапаты», дзе таксама ўсклала кветкі ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі.

«Беларуская хрысціянская дэмакратыя» заклікае адзначаць 7 лістапада як жалобны дзень і ўзгадваць ахвяраў беларускага народу, якія палі ад рук камуністаў.

«Камуністычны пераварот і распаўсюд камуністычнай ідэалогіі прывялі да шматлікіх ахвяраў беларускага народу. Ад рук камуністычных катаў склалі жыцці сотні тысяч простых жыхароў Беларусі, у тым ліку і лепшыя прадстаўнікі беларускага народу.

І сённяшняя ўлада працягвае камуністычныя традыцыі. У засценках НКУС-КДБ, дзе катавалі і расстрэльвалі выбітных сыноў Беларусі, і сёння працягваюцца рэпрэсіі супраць палітычных апанентаў рэжыму. На дзяржаўным узроўні дагэтуль святкуецца камуністычны пераварот, які стаў пачаткам масавых крывавых рэпрэсіяў.

**Прэсавая служба БХД**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ГУД БАЙ, КАСТРЫЧНІК!

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Краіна адзначыла чарговыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі. На жаль, гэты дзень з-за графіка Савета міністраў, стаў не вельмі чырвоным. Бо пераносу працоўнай пятніцы, 8 лістапада, на нейкую суботу, не адбылося. Таму чатыры дні выходных атрымаліся толькі ў тых, чыё кіраўніцтва асабіста вырашыла даць сваім працаўнікам адпачыць.**

Аляксандр Лукашэнка традыцыйна павіншаваў народ са святам напярэдадні, — бо яму, пасля знясільваючай працы ў Туркменістане, таксама адпачыць хацелася. «Амаль стагоддзе аддзяляе нас ад гэтай даты. Але і сёння Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая адбылася пад знакам гуманістычных каштоўнасцей і дэмакратычных свабод, не страчвае свайго значэння як знамянальная падзея сусветнай гісторыі», — адзначыў у віншаванні Аляксандр Рыгоравіч.

Па яговых словах, «бясплатныя адукацыя і медыцынскае абслугоўванне, васьмігадзінны рабочы дзень, ліквідацыя саслоўных прывілей, свабода веравызнання і роўнасць грамадзянскіх правоў жанчын і мужчын — гэтыя і іншыя даброты, якія здаюцца нам натуральнымі і неад'емнымі, з'яўляюцца заваёвамі таго часу».

Наконт такіх заваёваў, як бясплатная медыцына і адукацыя, можна толькі пакпіць. Казаць такія рэчы ў той час, калі больш за палову студэнтаў вучацца ў ВНУ на платных аддзяленнях, у школах і дзіцячых садках рэгулярна збіраюць грошы «на рамонты», а нашы любімыя дэпутаты ўсур'ёз прапануюць зрабіць платны ўваход у паліклінікі — гэта значыць адарвацца ад рэальнага жыцця і існаваць у паралельнай рэальнасці, як у фільме «Гуд бай, Ленін».

«Дасягненні, якімі ганарыцца незалежная Беларусь сёння: моцная народная ўлада, што абапіраецца на сістэму Саветаў дэпутатаў усіх узроўняў, сацыяльна арыентаваная эканоміка, высокаразвітыя адукацыя, навука і культура — у многім заснаваныя на патэнцыяле, набытым у БССР», — гаворыцца ў віншаванні.

«Высокаразвітая навука», тым часам, пад'ягорыла «сацыяльна арыентаваную эканоміку». Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Гарэгін Вардэванян напісаў у кастрычніцкім нумары «банкаўскага весніка», які выдае Нацбанк, што дэвальвацыя 2011 года была фактычна грабяжом народа. «Сцвярджэнне, якое часта сустракаецца зараз у СМІ, аб вычарпанні эфекту дэвальвацыі беларускага рубля, якая адбылася ў 2011 годзе, не адпавядае рэчаіснасці, паколькі дадзенага эфекту практычна не было да пачатку», — піша Вардэванян.

Чаму ж не было? Ды проста таму, тлумачыць Вардэванян, што «амаль 70% прыросту экспарту ў 2011 годзе прыпадала на долю мінеральнасыравінных тавараў, цэны на якія фармуюцца на сусветным рынку і, як правіла, на іх не ўплываюць змяненні абменнага курсу нацыянальнай валюты».

Так што, робячы высновы з меркавання спецыяліста НАН РБ, «сацыяльна арыентаваная эканоміка» проста крыху абрабавала «народзец», які бегаў па абменніках. І нічога больш.

Ён таксама папярэджвае, што дэвальвацыя, у неабходнасці якой перакананыя, здаецца, зараз усе, прынясе толькі інфляцыю і шалёны попыт на валюту.

Высокае дасягненне ідэалаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, інтэрнацыяналізм і братэрства народаў, канчаткова сышлі ў нябыт. На фоне калійнай вайны паміж партнёрамі па Саюзнай дзяржаве, Расія на чвэрць у параўнанні з вераснем і амаль удвая ў параўнанні з жнівем 2013 года скарaціла бягучыя пастаўкі нафты ў Беларусь.

Па дадзеных Цэнтральнага дыспетчарскага кіравання ТЭК РФ, у кастрычніку Расія паставіла ў Беларусь 1,115 мільёна тон нафты, што на 26,8% і 40% менш чым адпаведна ў верасні (1,521 мільёна тон) і жніўні (1,85 мільёна тон).

Зніжэнне паставак нафты ў Беларусь пачалося ў верасні пасля адпаведнага папярэджання з боку віцэ-прэм'ера РФ Аркадзя Дварковіча ў адказ на арышт у Мінску гендырэктара Уралкалія Уладзіслава Баўмгертнера і спробу беларускіх уладаў абвясціць у міжнародны вышук топ-менеджараў і заснавальніка расійскай кампаніі.

У кастрычніку на Мазырскі НПЗ было пастаўлена 587,6 тысячы тон нафты (у тым ліку 65,8 тысячы тон па чыгунцы), на «Нафтан» (Наваполацкі НПЗ) — 527,7 тысячы тон.

Яшчэ адзін кастрычніцкі паказчык сацыяльна арыентаванай эканомікі палягае ў тым, што золатавалютныя рэзервы Рэспублікі Беларусь скараціліся ў кастрычніку на 574,6 мільёна долараў і на 1 лістапада склалі толькі 6813,1 мільёна долараў ЗША. То бок, мы значна «ўлезлі» ў ЗВР, парушыўшы «планку неабходнасці» ў 8 мільярдаў долараў.

Такое істотнае зніжэнне, спрабуе апраўдацца Нацбанк, абумоўлена попытам на валюту з боку насельніцтва, а таксама плацяжамі па вонкавым абавязку: на пагашэнне і абслугоўванне крэдыту МВФ было выдаткавана 267,6 мільёна долараў, і яшчэ 100 мільёнаў долараў выплачана Ашчадбанку РФ па крэдыце «Беларуськалію».

У той час, калі золатавалютныя рэзервы скарачаюцца і перайшлі гранічную рысу, беларуская ўлада ўсё ж працягвае друкаваць «фанцікі» ў выглядзе беларускіх рублёў. Урад і Нацбанк Беларусі сваёй пастановай № 949/16 ад 31 кастрычніка распарадзіліся да канца года ажыццявіць крэдытаванне вёскі на суму 7,552 трыльёна рублёў. Згодна з дакументам, тры банкі — Банк развіцця, Белаграпрамбанк і Беларусбанк — выдадуць крэдыты на суму 3,762 трыльёна рублёў для фінансавання 10 дзяржаўных праграмаў аграпрамысловага комплексу.

Акрамя таго, сельгаспрадпрыемствы атрымаюць 1,303 трыльёна рублёў для разлікаў за прадукцыю раслінаводства, якая пастаўляецца для дзяржаўных патрэб, 1,039 трыльёна рублёў — на закупку гаруча-змазачных матэрыялаў і мінеральных угнаенняў. На фінансаванне жыллёвага будаўніцтва на вёсцы будзе накіравана 1,447 трыльёна рублёў.

Карацей, не па сродках жывем, і праядаем тое, што яшчэ засталося. Не дзіва, што моладзь так жыць не хоча. Гадавіну Вялікага кастрычніка мінскія актывісты БХД адзначылі па-свойму. Яны здалі ў пункт прыёму другаснай сыравіны кнігі марксісцка-ленінскай ідэалогіі: зацёртыя тамы «Истории КПСС» і іншыя выданні па засмечванні мазгоў савецкага чалавека.

Прыёмшчыца ў пункце прыёму макулатуры адзначыла, што такой літаратуры здаецца не так многа. «Астатняе даўно выкінута», — адказалі ўдзельнікі акцыі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІКОЛА СТАТКЕВІЧ



Былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі зноў абмежаваны ў выказванні сваіх думак. Прынамсі, выказваць іх ён можа так, каб іх ніхто не пачуў. Былы палітвязень, сустрашыня «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч падаў заяву ў Дэпартамент выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці з просьбаю правесці праверку ў СТ №4 Магілёва і высветліць, чаму ад Мікалая Статкевіча не даходзяць лісты.

«Жонка спадара Міколы Марына Адамовіч паведаміла мне, што атрымала ад мужа ліст за 21 кастрычніка, дзе той перараказвае мне вітанні і піша, што даслаў мне тры лісты за апошні час, — адзначыў Дашкевіч. — Я ж атрымаў ад яго толькі адну паштоўку, і тое два месяцы таму. На жаль, гэта не першы выпадак, калі адміністрацыя магілёўскай турмы блакуе пошту палітвязняў, як Міколы Статкевіча, так і Яўгена Васьковіча, — і тое, што яны дасылаюць, і тое, што дасылаецца ім. Таму я звярнуўся ў Дэпартамент, каб была праведзеная праверка па гэтым факце».

Канешне, Дашкевіч, які сам неаднойчы сутыкаўся з турэмнай цэнзурай, не мае ілюзіяў, што Дэпартамент выканання пакаранняў знойдзе «згубленыя» лісты Статкевіча. Аднак, па меркаванні палітыка, чым часцей звяртаць увагу на беззаконні ў пенітэнцыярнай сістэме, тым меншым будзе прага турэмшчыкаў чыніць гэтыя беззаконні.

А пакуль Статкевіч застаецца «абмежаваным у ліставанні».

### УЛАДЗІСЛАЎ БАЎМГЕРТНЕР



Беларусь хутка можа развітацца з «віп-затрыманым» гендырэктарам «Уралкалія» Уладзіславам Баўмгертнерам. Генпракуратура Беларусі пацвердзіла, што атрымала з Расіі запыт аб экстрадыцыі Баўмгертнера.

Афіцыйны прадстаўнік Генпракуратуры Беларусі Пётр Кісялёў паведаміў, што «Генпракуратура Беларусі прыступіла да разгляду дадзенага запыту».

«У сувязі са шматлікімі запытамі СМІ Генеральная пракуратура РФ інфармуе, што са Следчага камітэта Расіі ёй паступіла хадайніцтва аб выдачы грамадзяніна РФ Уладзіслава Баўмгертнера для прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Хадайніцтва было вывучана ў Генпракуратуры Расіі. Пасля разгляду дадзеных матэрыялаў 22 кастрычніка ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь быў накіраваны запыт аб выдачы Баўмгертнера ў Расію», — паведаміла і Генпракуратура Расіі.

Так што, магчыма, Баўмгертнер хутка з'едзе на радзіму. А пасля гэтага, у чым мала хто сумняваецца, расійскія следчыя органы спыняць супраць яго крымінальную справу і выпусцяць на волю. Усё шабуршанне з завядзеннем крымінальнай справы супраць Баўмгертнера ў Расіі і завочным ягоным арыштам выклікана толькі жаданнем, «хоць тушкай, хоць чучалам» выдраць яго з кіпцюроў КДБ. І зараз фармальна ў РБ няма падставаў адмовіць Расіі ў выдачы яе грамадзяніна. Калі, канешне, беларускія следчыя не завядуць на яго нейкую новую крымінальную справу.

### ВОЛЬГА КЛАСКОЎСКАЯ



Не пашанцавала ў Швецыі нашай суайчынніцы Вользе Класкоўскай. Яна прайграла апеляцыйны суд і павінна сем год правесці ў шведскай турме.

Некалькі год таму Класкоўская атрымала статус палітычнага ўцекача ў сувязі з пераследам на радзіме за апазіцыйныя перакананні. У 2011 годзе яна адмовілася ад гэтага статусу і вярнулася ў Беларусь, каб падтрымаць свайго брата — фігуранта справы «Плошчы–2010» Аляксандра Класкоўскага. Але неўзабаве зноў з'ехала ў Швецыю, дзе выйшла замуж за мясцовага жыхара турэцкага паходжання, а ў ліпені 2012 года нарадзіла сына. Дакументы на атрыманне віду на жыхарства ў Швецыі падавала двойчы: пасля шлюбу і пасля нараджэння дзіцяці. У канцы студзеня 2013 года стала вядома, што ўлады Швецыі адмовілі ёй у атрыманні віду на жыхарства і прынялі рашэнне аб яе дэпартацыі без права абскарджвання.

У лютым прадстаўнікі сацыяльных службаў Швецыі забралі ў Класкоўскай сына ў сувязі з тым, што ў яе няма віду на жыхарства ў гэтай краіне і яна не можа забяспечыць яму нармальныя ўмовы пражывання.

З мужам Гекаем Безгінам у яе не склалася. Падчас аднаго з сямейных скандалаў Класкоўскую затрымалі, а 23 жніўня стакгольмскі суд прызнаў Класкоўскую вінаватай у замаху на забойства мужа.

Пасяджэнні апеляцыйнага суда адбываліся з 23 да 25 кастрычніка. У выніку вырак — 7 гадоў турмы і штраф у 110 тысяч шведскіх крон на карысць мужа.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ КАГНІТЫЎНАГА АСЯРОДДЗЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Беларуская ўнутраная і знешняя палітыка будуецца на аснове міжасабовых стасункаў па-над імітацыйнымі дзяржаўнымі інстытутамі.**




У папярэдняй «Азбуцы палітагогіі» я паспрабаваў прааналізаваць прэс-канферэнцыю адзінага палітыка (АП) з пункту гледжання тэорыі «савецкага чалавека», якая актыўна распрацоўваецца сацыёлагамі школы Лявады. Што ў мяне атрымалася — хай мяркуюць чытачы. Але ўлічваючы маштаб інфармацыйнай падзеі, я вырашыў зноў звярнуцца да прэс-канферэнцыі, і гэтым разам заклікаў на дапамогу азбукавыя ісціны з галіны кагнітыўнага аналізу. Яны дазваляюць нам зразумець тое, як чалавек бачыць навакольны свет і якім чынам ён узаемадзейнічае з ім.

Кагнітыўнае асяроддзе (кагнітыўнасць — ад лацінскага «cognitio» — «спазнанне», «вывучэнне», «усведамленне») задае аснову, на якой будуецца грамадскі парадак. Ён можа фармулявацца ў тэрмінах законаў і правоў, а можа існаваць як сістэма асабістых адносін, што на працягу пяці з палавай гадзін і дэманстраваў АП.

## Хто выйграе войны?

Адкрыем кнігу Вячаслава Шыроніна «Кагнітыўнае асяроддзе і інстытуцыянальнае развіццё»: «Заходняя Еўропа на працягу прыкладна двух тысячагоддзяў выпрацавала тэхніку арганізацыі чалавечых супольнасцяў як знакавых сістэм. Гэта дазваляе, нібы з дзіцячага канструктара, з наяўных разумовых і інстытуцыянальных «дэталяў» лёгка збудаваць бясконцае мноства новых складаных адносін, мадэляў паводзінаў і рэчаў».

Патлумачу гэта тэарэтычнае мудрагельства на прыкладзе. Пераход ад рыцарскага войска да войска Новага часу адбыўся не столькі з-за вынаходніцтва пораху, колькі шляхамператварэння войска ў знакавую сістэму. Салдат пачалі вучыць выконваць стандартныя каманды, у выніку людзі ператварыліся ў элементы сістэмы, у своеасаблівы аналаг набораў дэталяў LEGO для фармавання падраздзяленняў і палкоў, якімі можна было кіраваць і манеўраваць.

Стварэнне арміі як знакавай сістэмы прывяло да развіцця ваеннай навукі — тактыкі, стратэгіі, ваеннай арганізацыі і інш. Тое ж самае можна сказаць пра рынак працы і ўзнікненне сістэмы стандартызаванай адукацыі. Гэтыя два сюжэты непарыўна звязаныя. Паводле папулярнага выказвання Бісмарка, «войны выйграюць не генералы, войны выйграюць школьныя настаўнікі і прыхадскія святары».

На Усходзе, часткай якога тэрыторыя цяперашняй Беларусі стала пасля далучэння да Расійскай імперыі, грамадскі парадак заснаваны не на руху складаных ментальных канструкцый, а на перавазе сеткавых структур, дзе людзі ўступаюць адзін з адным у адносіны, заснаваныя на самых агульных чалавечых уласцівасцях, і абменьваюцца дастаткова простымі імпульсамі.

Зразумела, непераадольнасць мяжы паміж Усходам і Захадам заўсёды была ўмоўнай. Таму для савецкага чалавека, у тым ліку і для яго сучаснай беларускай разнавіднасці, вельмі важна супастаўленне свайго жыцця з ладам жыцця ў Еўропе. Як тут ні прыгадаць афарызм з фільма «Брыльянтавая рука»: «Сеня, а ты кока-колу піў?» Аднак успрымаць заходнія ідэі беларусы здольныя толькі праз фільтры сваёй культуры, што рэгулярна нам і дэманструе галоўны персанаж маіх «Азбук палітагогіі».

## «Я гавару…», «ён гаворыць…»

Калі я чытаў стэнаграму апошняй прэс-канферэнцыі АП (85 старонак), мяне не пакідала адчуванне, што на пытанні расійскіх журналістаў адказвае не кіраўнік дзяржавы, а прыватная асоба. Нічога спецыфічна беларускага ў гэтым няма, папросту наша сучаснасць — гэта сярэднявечнае мінулае Еўропы, на што я ўжо неаднаразова звяртаў увагу чытачоў.

Прывяду адпаведную цытату з кнігі ваеннага гісторыка Марціна ван Крэвельда «Росквіт і занепад дзяржавы»: «Сістэма кіравання, што нарадзілася ў нетрах феадалізму і ўзыходзіць да часоў Рымскай імперыі, і паўстала Еўропе ў 1331–1648 гг., галоўным чынам усё яшчэ насіла асобасны характар. Дзяржавы як абстрактнай арганізацыі, якая валодае ўласнай юрыдычнай асобай, адрознай ад асобы кіраўніка, яшчэ не існавала».

Калі мы паспрабуем чытаць еўрапейскіх аўтараў згаданага вышэй перыяду, то заўважым, што яны паказваюць усе буйныя падзеі выключна як жыццяпіс асобаў, якія імі кіравалі.

А зараз звернемся да стэнаграмы прэс-канферэнцыі. Яе цэнтральная сюжэтная лінія будуецца вакол калійнага канфлікту. Гісторыя пачынаецца са званка кіраўніка калійнага камбіната ў год, *«когда я стал президентом»: «Я тут думаю, как хлеб где найти, Минск без хлеба, на двое или трое суток муки осталось, есть нечего, а они мне про этот калий и как его продать…»*

Першая фаза канфлікту скончылася сумна. У АП не хапіла часу асабіста кантраляваць усе дэталі рэалізацыі ўгнаенняў, а кіраўнік камбіната ў Салігорску апынуўся нячысцім на руку: *«Я говорю: «Сколько в Индии стоят калийные удобрения у крестьян? Сколько у оптовиков и прочих?» Понятия не имеет! Я говорю: «Так ты же меня просил, что ты будешь один продавать». — «Так я продаю один». Но за забором только. И там все «кормились» от этого московского «МКК». Он продавал. Он брал у него за 70 долларов, а продавал, к примеру, за 300, что-то на фрахт уходило, а остальное — забивали карманы. Это огромные деньги — миллиарды были в год!»*

Далей гісторыя продажу беларускіх калійных угнаенняў ад МКК («Міжнародная калійная кампанія») паволі перацякла ў гісторыю продажаў праз БКК («Беларуская калійная кампанія»). Апошняя стваралася па адзіна магчымым у Беларусі прынцыпу: *«Он* (Дзмітрый Рыбалоўлеў) *приехал ко мне и говорит: «Александр Григорьевич, давайте объединимся». Я говорю: «Подожди, это новая проблема, дай мне неделю, я проработаю»* і г.д.

Не па віне беларускага боку супрацоўніцтва з Рыбалоўлевым было кароткатэрміновым. Калійнага алігарха ў Расіі «папрасілі» прадаць актывы. Прыехаў ён да АП у слязах. *«Я говорю: «А ты чего?» — «Всё, Александр Григорьевич, я уже продать, наверное, не буду». <…> И рассказал мне, как это было. Наехали, придушили… Я его не обеляю…».*

Але святое месца пустым не бывае. Месца Рыбалоўлева заняў Керымаў, і махавік супрацоўніцтва закруціўся з падвоенай хуткасцю: *«Я говорю…», «он говорит…».*

## Міша не дапамог

Адзінае, што АП ставіць сабе ў заслугу — гэта стварэнне суверэннай і незалежнай дзяржавы. Але цэнтралізацыя ўлады сама па сабе яшчэ не роўная стварэнню дзяржавы, калі пад гэтым разумець тое, што ў Еўропе апісваецца словам «state». Рускае ж слова *«государство»* тут будзе вельмі нават да месца, бо «ГО» — гэта *«господин»*, «СУ» — *«сударь»*, якому дораць нейкія прывілеі ў абмен на службу.

Менавіта на будаўніцтва такой дзяржавы-гаспадарства і накіроўваў сваю энергію АП на працягу дваццаці гадоў. І ён гэта пабудаваў. Таму нікога не дзівіць, што канфлікты гаспадарчых суб'ектаў, якія абарочваюцца для беларускага грамадства шматмільярднымі стратамі, вырашаюцца ў нас не праз суд. Гэта вам не Еўропа. Беларускі суд, як у свой час суд савецкі (самы справядлівы ў свеце), не разлічаны на прыняцце кіраўнічых рашэнняў. Гэта «мясарубка», што перамолвае жывых людзей.

Канфлікты ж у межах звыклага для нас кагнітыўнага асяроддзя вырашаюцца шляхам міжасабовых адносін. У дадзеным выпадку АП паспрабаваў звярнуцца па дапамогу да Мішы Гуцэрыева: *«Говорю: «Михаил, пожалуйста, можешь ты выполнить мою просьбу?» — «Какую скажете». <…> «Можешь передать». — «Могу». Поехал. <…> Через три дня приезжает Гуцериев и говорит: «Ну, не буду президента обманывать… Послал».*

Для аддзялення асобы кіраўніка ад дзяржавы Еўропе спатрэбілася каля 150 гадоў, калі лічыць ад падпісання Вестфальскага міру ў 1648 годзе. Асабліва варта падкрэсліць, што з ростам дзяржавы ў яе фінансаванні ўсё меншую ролю адыгрывалі асабістыя сродкі манарха і, наадварот, усё большую — дзяржаўны бюджэт, сфармаваны з падаткаў.

У Беларусі права АП на «асабістыя сродкі» замацавана на рэферэндуме 1996 года, калі беларусы, паводле афіцыйных дадзеных ЦВК, дружна адмовіліся ад канстытуцыйнай папраўкі дэпутатаў Вярхоўнага Савета, паводле якой фінансаванне ўсіх галін улады мусіла ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту.

А таму патрабаванні прадстаўнікоў так званай «пятай калоны» разабрацца з крыніцамі фінансавання Палаца Незалежнасці інакш як некампетэнтнымі назваць нельга. Што да тлумачэння: *«там нет ни одного бюджетного рубля»,* дык яно ні ў чым не супярэчыць прыродзе дзяржавы-гаспадарства.

## Калектыўны Google

Англійскі філосаф Джон Лок растлумачваў сучаснікам, што падданыя ніякім чынам не з'яўляюцца чальцамі сям'і ці хатняй гаспадаркі кіраўніка. Такім чынам, прынцыпы, на аснове якіх ажыццяўляецца кіраванне імі, адрозніваюцца ад тых, што выкарыстоўваюцца ў дачыненні жонак, дзяцей ці авечак.

Цікава, як бы пракаментаваў філосаф са свайго XVII стагоддзя, калі б яму давялося разам з АП наведаць ААТ «Мотавела», наступны прынцып працы з нядбайнымі кадрамі: *«Если, допустим, директор моторного завода слесарь, значит, он пойдет работать слесарем или бригадиром слесарей, если Семашко* (першы намеснік прэм'ер-міністра) *конструктор, он пойдет работать конструктором».*

Але ніводны кіраўнік палітычнай адзінкі, большай за сям'ю, не ў стане дзейнічаць без падначаленых, таму развіццё еўрапейскіх дзяржаў ішло поруч з павелічэннем колькасці бюракратыі, адпаведна, і з ростам яе ўплыву на дзяржаўныя справы. Аднак чым мацнейшая і больш цэнтралізаваная бюракратычная сістэма была неабходная для кіравання дзяржавай, тым у большай ступені кантроль дзяржаўных спраў пераходзіў з рук саміх кіраўнікоў у рукі бюракратаў.

Усё лагічна, манапалізаваўшы права на прыняцце рашэнняў, кіраўнік патрапляе ў поўную залежнасць ад крыніц інфармацыі. Зразумела, што ён фізічна не ў стане не толькі самастойна збіраць неабходную інфармацыю, аднак ён аднаасобна не здолее яе апрацоўваць.

Варта звярнуць увагу, што падчас адказаў на пытанні расійскіх журналістаў АП быў вымушаны пастаянна звяртацца па дапамогу да супрацоўнікаў сваёй адміністрацыі і чальцоў ураду. Усе разам яны складалі своеасаблівы аналаг Google, тым самым як бы падкрэсліваючы ролю сеткавых структур, якія ляжаць у аснове айчыннага кагнітыўнага асяроддзя.

НЕБЯСПЕКА

# НЯВЫКАНАНЫЯ АБЯЦАННІ АЭС

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**2 лістапада Лукашэнка падпісаў указ «Аб будаванні Беларускай атамнай электрастанцыі». Гэты ўказ дазваляе генеральнаму падрадчыку — расійскаму ЗАТ «Атамбудэкспарт» — пачаць пабудову Беларускай АЭС.**

Як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, у рэгіёне размяшчэння станцыі створана інфраструктура, неабходная для будаўніцтва АЭС, распрацавана праектная дакументацыя, якая зацверджана пастановай Савета Міністраў. Таксама заказчык аб'екта — дзяржустанова «Дырэкцыя будаўніцтва атамнай электрастанцыі» — атрымаў ліцэнзію на права ажыццяўлення дзейнасці ў галіне выкарыстання атамнай энергіі і крыніц іанізуючага выпраменьвання ў частцы работ па ўзвядзенню ядзерных установак.

Беларусь і РФ у ліпені 2012 года з падпісаннем у Мінску генкантракта на будаўніцтва АЭС фактычна завяршылі працэдуру падпісання асноўных дакументаў па гэтаму праекту. Раней, у сакавіку 2011 года, у Мінску было падпісана міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве пры будаўніцтве АЭС, у кастрычніку 2011 года — кантрактнае пагадненне аб будаўніцтве АЭС. У лістападзе 2012-га бакі падпісалі міжурадавае пагадненне аб выдзяленні Беларусі расійскага дзяржаўнага экспартнага крэдыту ў памеры да 10 мільярдаў долараў. У студзені 2012 года быў падпісаны першы пакет першачарговых пагадненняў і кантрактаў на будаўніцтва АЭС.

Але дзяржкрыніцы звычайна кажуць, што было зроблена. Але замоўчваюць пра тое, чаго зроблена не было.




Фота www.greengrodno.info

### Без рэферэндуму

Яшчэ падчас развіцця ідэі будаўніцтва АЭС Аляксандр Лукашэнка абяцаў правесці рэферэндум па гэтым пытанні. «Гэта тое пытанне, якое фарсіраваць нельга. Мы яго прапрацоўваем. Калі будзем вырашаць, звернемся да людзей, як у нас заведзена. Я тут нічога хаваць не буду. Будзем будаваць толькі тады, калі гэта рашэнне падтрымае народ» (1 верасня 2006 года ў час сустрэчы са студэнтамі Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта).

Замест усеагульнага абмеркавання абмежаваліся не тое што невыразнымі, але і скандальнымі «грамадскімі слуханнямі», на якія працаўнікі АЭС не дапускаліся міліцыянтамі. Паабяцалі мясцовым жыхарам пусціць па горадзе тралейбус і падпісалі крэдытнае пагадненне літаральна дзень у дзень з катастрофай на японскай Фукусіме, не саромеючыся абвясціўшы, што сучасныя расійскія рэактары цяпер з'яўляюцца самымі бяспечнымі ў свеце.

Наш жа ЦВК, які з поспехам для сябе праводзіць плебісцыты, гэтага рэферэндуму спужаўся. У адказ на пытанне з гэтай нагоды «Камсамольскай праўды ў Беларусі» Лідзія Ярмошына заявіла: «Калі пытацца пра гэта, то мы звяжам рукі нашаму ўраду. Гэта ўсё роўна, што праводзіць на прадпрыемстве рэферэндум на тэму таго, ці павінен кіраўнік кіраваць. Скасіцца да таго, што нічога нельга будзе зрабіць без атрымання ўсеагульнага ўхвалення. Гэта будзе яшчэ горш, чым дыктатура».

Не дзіва, чаму спужаліся. Нягледзячы на ўсеагульную прапаганду «мірнага атаму», пераканаць людзей не ўдалося. Згодна з апытаннем НІСЭПД, праведзеным у верасні гэтага года, станоўча паставіліся да будаўніцтва АЭС толькі 34% беларусаў, адмоўна — 37,6%, абыякава — 22,6% і не здолелі адказаць 5,8%. Здаецца, разбежка невялікая, але калі б пытанне было пастаўлена на рэферэндуме, «абыякавыя» перабеглі ў стан працiўнікаў будаўніцтва. Проста з-за асцярожнасці.

### Без міжнароднага ўхвалення

Беларуская АЭС будуецца ў парушэнне міжнародных дамоваў. Прынамсі, толькі 30 кастрычніка МЗС Літвы заклікаў беларускія ўлады не будаваць АЭС у Астраўцы, пакуль не будзе дадзена канчатковая ацэнка ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, як таго патрабуе Канвенцыя Эспа.

Згодна з канвенцыяй, будаўніцтва не можа быць пачатае, пакуль не будуць задаволеныя ўсе бакі працэсу, а Літва не атрымае адказы на ўсе пытанні. У прыватнасці, нашых суседзяў цікавіць, чаму для будаўніцтва АЭС была абраная менавіта Астравецкая пляцоўка, якая знаходзіцца ўсяго ў 50 кіламетрах ад сталіцы Літвы Вільні. Афіцыйны Мінск не дае адказу, чаму не праводзяцца сейсмалагічныя даследаванні мясцовасці, паколькі ў гэтым месцы былі зафіксаваныя землятрусы. Няма адказаў на пытанне, як будуць астуджацца рэактары.

Усе «грамадскія слуханні», якія прайшлі па будаўніцтве АС, Літва лічыць нелегітымнымі, паколькі адказы на пытанні павінны былі быць атрыманыя не пасля слуханняў, а да іх. Але ні да, ні пасля слуханняў ніякія адказы атрыманыя і не былі. Таму Літва заяўляе, што Беларусь парушае Канвенцыю Эспа.

З выхадам указа аб будаўніцтве Беларускай АЭС рэспубліка завяршыла свае дыскусіі з Літвой. «Мы лічым, што на гэтым нашы дыскусіі з Літвой з нагоды будаўніцтва АЭС завяршыліся, хоць Літва, вядома, лічыць па-іншаму. Але ў нас няма іншага выйсця, бо Літва ўжо два з паловай гады цягне гэтую спрэчку. Мы ж зрабілі ўсё, што маглі, каб патлумачыць праблемныя пытанні», — заявіў начальнік упраўлення дзяржаўнай экспертызы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі Аляксандр Андрэеў.

### Без апрабаванага рэактару

Як вядома, беларуская АЭС будзе складацца з двух энергаблокаў сумарнай магутнасцю да 2,4 тыс. МВт. Першы блок АЭС плануецца ўвесці ў эксплуатацыю летам 2018 года, другі — у 2020 годзе. Плануецца, што гэта будзе атамная станцыя серыі «АЭС-2006» з рэактарамі ВВЭР-1200.

Можа, каго і ўразіць серыя «АЭС-2006», але толькі не спецыялістаў. Нягледзячы на аптымістычную, здавалася б, серыю, «Расатам» пакуль што не пабудаваў ніводнай станцыі гэтай серыі з рэактарамі такога тыпу. Па такіх праектах толькі будуюцца Ленінградская АЭС-2, і Нававаронежская АЭС-2. А значыць, усе развагі пра тое, што гэты рэактар «надзейны», мае нейкую чатырохслойную абарону, эксплуатуецца ўдвая большы тэрмін — усяго толькі тэарэтычныя распрацоўкі. І не больш.

Не можа не выклікаць трывогі і тое, што ў праект «па ходу справы» ўносіліся праўкі. Як распавёў намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк, «расійскі бок старанна ўзважыў тое, што прывяло да аварыі на Фукусіме, і ўнёс адпаведныя карэкціроўкі ў наш праект». Ці сапраўды ад гэтага праект стаў больш надзейным?

Канешне, атамшчыкі кажуць, што ў аварыі на Фукусіме вінаватыя не рэактары, а землятрус і цунамі. Але тады, услед за Літвой, запытаемся: чаму ў Астраўцы не праводзяцца сейсмалагічныя даследаванні мясцовасці? Трэба было зрабіць менавіта гэта, а не ўносіць дапрацоўкі ў рэактар «на каленцы».

Гэта тое, чаго Беларусь не зрабіла яшчэ да пачатку будаўніцтва АЭС. Застаецца толькі здагадвацца, чаго ўлада яшчэ не зробіць у гэтым накірунку. Канешне, было б добра, каб АЭС проста не пабудавалі. Але тое, што робіцца ўжо зараз, вельмі насцярожвае.

ФІНАНСЫ

# УЛАДАМ ПАТРЭБНЫ ІНШЫ НАРОД?

Сяргей ПУЛЬША

**У беларускім фінансавым сектары здарылася знакавая і эпахальная падзея. Чацвёртага лістапада апошні дзяржбанк — «Парытэтбанк» — спыніў выдачу крэдытаў на набыццё жылля. Зараз такія крэдыты выдае толькі камерцыйны «Франсабанк». Эксперты ў адзін голас кажуць: гэта праблемы банкаўскай сістэмы, а магчыма і знак хуткай дэвальвацыі.**

Зразумела, банкіры больш за ўсіх ведаюць, што нас чакае ў хуткім часе, а буйныя крэдыты, асабліва на набыццё жылля, заўсёды былі прадметам нейкай «махінацыі» ва ўмовах няўстойлівасці эканамічна-фінансавай сістэмы Беларусі. Спыненне выдачы крэдытаў на жыллё — знак таго, што ў нас не ўсё ў парадку з фінансамі, і недзе хутка будзе горш.

Напрыклад, эканаміст Леанід Заіка адзначае, што ў сучасных умовах крэдыт на набыццё жылля — на 90% спекулятыўная здзелка. «Чалавек мяркуе, што ён возьме 100 мільёнаў, купіць сабе кватэру і будзе чакаць, пакуль рубель абрынецца. Такое ўжо было ў 2009 і ў 2011 гадах. Я ведаю бізнэсоўцаў, якія бралі крэдыты на дарагія машыны, куплялі іх, а праз тры-чатыры месяцы адбываўся абвал, і 80 мільёнаў, якія былі ўзятыя, ператварыліся з 20 тысяч долараў, скажам, у 10. Нават самі банкіры бралі такія крэдыты», — адзначыў Заіка.

Былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір адзначае, што ў банкаўскім сектары эканомікі ўзніклі вялікія праблемы. «Рашэнне банкаў тлумачыцца агульнай фінансавай сітуацыяй, і як доўга гэта працягнецца, сказаць немагчыма. Усё будзе залежаць ад таго, як будзе паводзіць сябе Расія і Міжнародны валютны фонд, ці будуць яны далей падтрымліваць Беларусь. Аднак галоўная прычына крызісу — у незбалансаванасці знешняга гандлю. Улады не могуць экспартам расплаціцца за імпарт энерганосьбітаў, нягледзячы на іх нізкія цэны. Калі гэта не будзе зроблена, то мы і далей будзем знаходзіцца ў сітуацыі, калі будуць узнікаць такія ж праблемы і працягнецца дэвальвацыя нацыянальнай валюты», — упэўнены ён.

Тыя, хто дбае больш «пра народ», адзначаюць іншы аспект праблемы. Так, кіраўнік Партыі БНФ Аляксей Янукевіч у заяве з нагоды спынення крэдытавання адзначыў, што «фактычная забарона жыллёвага крэдытавання» несумяшчальная з вырашэннем дэмаграфічнай праблемы. «Усім зразумела, што упэўненасць у заўтрашнім дні для маладой сям'і з дзецьмі немагчымая без уласнай кватэры альбо дому. Падобнымі крокамі дзяржава фактычна дэкларуе адмову ад раней агучаных намераў зрабіць падтрымку нараджальнасці важнай задачай дзяржаўнай палітыкі», — лічыць Янукевіч.

Але насамрэч, падаецца, што ўлады збіраюцца проста замяніць «кепскіх беларусаў» на іншы народ. Бо, як высвятляецца, у нас шмат магчымасцяў забяспечыць жыллём каго заўгодна. Пра тое, што ў Мінску ў раёне Лябяжы будуецца «кітайскі квартал», усе ўжо ведаюць. А значыць, грошы на будоўлю ёсць.

І, дарэчы, ёсць грошы не толькі для кітайцаў. Падчас перамоваў з прэзідэнтам Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедавым у Ашхабадзе 5 лістапада Аляксандр Лукашэнка прапанаваў стварыць у Беларусі «туркменскую выспу» з інтэрнатамі або гасцініцамі для студэнтаў з Туркменістана. «Мы будзем рабіць усё, што пажадае туркменскі бок па стварэнні і развіцці сумесных вытворчасцяў як у Беларусі, так і ў Туркменістане. Сапраўды, вы маеце рацыю, больш, чым туркменскіх студэнтаў, у нас нікога няма. Гэта вельмі добрыя, добрыя хлопцы. Мы вылучым у Мінску самы добры раён, няхай пабудуюць «астравок туркменскай моладзі», якая будзе вучыцца ў ВНУ, на нашых прадпрыемствах, калі мы СП будзем тут ствараць. Дапусцім, вырашылі мы трактар выпусціць тут сумесны... Мы заўсёды запрашаем вашых хлопцаў, яны вучацца на канвееры, у тэхнікумах, а потым прыязджаюць сюды працаваць. Хай бы быў астравок туркменскай зямлі ў Мінску, дзе былі б інтэрнаты, гасцініцы, тое, што вы захочаце», — заявіў Лукашэнка

Такім чынам, у Беларусі не стае грошай, каб пракрэдытаваць набыццё жылля для ўласных грамадзянаў. Але ў той жа час мы гатовыя забяспечыць жыллём і працай «добрых туркменскіх хлопцаў». Можа быць, беларусам увогуле пакінуць краіну — каб не перашкаджаць Аляксандру Лукашэнку сябраваць з Туркменіяй і дасягаць амбітнай мэты стварэння сумеснага беларуска-туркменскага трактару?

ALBA ROCIKA

# СУБОТНІКІ — РАДЗІМА ПАЗЬНЯКА

Віталь СЯМАШКА

**Калі хто думае, што назва вёскі Суботнікі нейк звязана з камуністычным мінулым, той памыляецца. Паселішча з часоў ВКЛ уваходзіла ў склад Віленскага ваяводства.**

Касцёл Святога Уладзіслава — тутэйшы помнік архітэктуры неаготыкі. Граф Уладзіслаў Умястоўскі, які ў XIX стагоддзі прафінансаваў будоўлю, цэглу замовіў у Францыі. Алтар зрабілі варшаўскія майстры, палатно ж у ім — баварскае.

Між іншым, у гэтым касцёле і ахрысцілі Зянона Пазняка, які нарадзіўся ў Суботніках напрыканцы Другой сусветнай вайны. У вёсцы яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць Зянона не як трыбуна і палітыка, а як вучня і маладзёна. Прыадчыніць завесу над уласным жыццём, якую ўзвёў ён сам, было таксама адной з мэт вандроўкі.



Зянон Пазьняк



Касцёл святога Уладзіслава

## Памежная зона

Калі я выйшаў ля павароту на Суботнікі, адразу адчуў, што патрапіў у зону бязлюддзя, неўзараных палеткаў ды некранутых лясоў воддаль. Тлумачэнне таму простае — 30-кіламетровая памежная з Літвой зона. Гэта гадамі выклікае наракканні ў мясцовых. Каб прыехаць да іх, патрабуецца запрашэнне з вёскі, заверанае ў сельсавеце. Няма — ловяць-штрафуюць… Ад паўмільёна і болей. Мой запрашальны квіток быў выраблены праз знаёмцаў з Ліды.

Да Суботнікаў суботнім жа ранкам давялося 15 кіламетраў ісці пехатой, так і не сустрэўшы ніводнага спадарожнага аўто. Адзіны ж маршрутны аўтобус у райцэнтр і назад ходзіць раз на тыдзень, па панядзелках. Пра што мне найперш паскардзіўся 77-гадовы пан Чэслаў, чыя хата сустрэлася мне праз першыя 5 кіламетраў. «Паедзь у тое ж Іўе да ўрачоў, — паскардзіўся ён, — а пасля пакутуй, як вярнуцца назад!»

Тым не менш, аптымізму пан Чэслаў не губляе — засталіся садок, куркі і пенсія ў паўтара мільёна. Смеючыся, кажа, што за яе можна купіць нештачка, як за заробак у 30 рублёў у савецкія часы.

Яшчэ праз два кіламетры дарогі спыніўся каля хаты Станіславы Едзь. 75-гадовая цётка Станіслава, убачыўшы мяне здаля, выйшла сустрэць з 5-гадовым унукам Андрусём. 44 гады адпрацавала яна даяркай у калгасе. Сваю кароўку дагэтуль трымае. Уратавала ад уладных «рэпрэсій» парсючкоў. Цяпер радуецца, што Лідскі мясакамбінат увайшоў у лік трох у краіне, які дазволены экспарт свініны ў Расію.

Дапамагаюць і дзеці — іх у яе шасцёра. Разам з матуляй жыве толькі сын-камбайнер. Са скрухай кажа, што, зарабіўшы на ўборцы 7 мільёнаў, узімку і мільёна не атрымае. І ўсё-ткі дапамагае суседцы, адзінокай спадарыні Галіне, якая страціла зрок. Апавядае, што ў той нейк схапіла сэрца, і «хуткая» адмовілася везці ў іўеўскую бальніцу — маўляў, «сваімі» да рэшты завалена.

У Суботніках жа лякарню 9 гадоў таму закрылі на маіх вачах, калі праездам завітаў туды ў першы раз. На вуліцу выкінулі 26 чалавек абслугі, зубнога ўрача, ліквідавалі чатыры сацыяльныя ложкі. Улады цынічна назвалі гэта «рэструктурызацыяй ложкавага фонду». Бабулькі са слязьмі жаляцца на свае хваробы і лёс. Дарэчы, будынак лякарні на 50 ложкаў быў збудаваны яшчэ ў 1930-я на сродкі Лігі нацыяў.

Па дарозе сустракаю 46-гадовага даглядчыка Вацлава Багданкевіча. Шлях яго штодзень — 4 кіламетры на ферму і назад, дзе працуе з 8 раніцы да 17.00. Ад улады нічога не чакае: «Ай, хіба Лукашэнка зведае калі-небудзь, што ў Суботніках вытвараюць?! Учора хлеб адной цаной, заўтра другой. Каго ні паставяць, нам усё роўна гараваць…»

Перад самай вёскай заходжу да «заможнейшага» ў наваколлі гаспадара — 45-гадовага фермера Івана Пашко, аднаго з чатырох у Суботніках. Хоць прыватным уласнікам яго можна назваць з вялікай напругай. На двары — старая «сямёрка», трактарок 1982 года выпуску, касілка. У арэндзе ўсяго 2 гектары. Саджае бульбу, якую ў яго закупляе райбаза гародніны. Кажа, каб была магчымасць узяць тэхніку па лізінгу, пацягнуў бы і 30 гектараў. А каб наладзіліся адносіны з Літвой, зрабіў бы замах і на ўсе 100 — глеба добрая. Ураджайнасць па 200 цэнтнераў. Але закупнікі з Расіі ў 30-кіламетровую завітваць не рашаюцца. Таму і дарогі пустэльныя — моладзь не мае перспектыў і збягае…

## Сучасныя Суботнікі

Суботнікаўцы сваю вёску называюць «паміраючай». Некалі ў Суботніках і 43 вёсачках і засценках навокал пражывала да 4 тысяч чалавек, засталося менш тысячы, ды і тое пераважна пенсіянеры. Быў тут спіртзавод ды макаронны цэх. 4 гады таму ўзнік аграгарадок. Грошай хапіла, каб асфальт у цэнтры паклалі ды школу адрамантавалі. На сёння для дзеяздольных ці не адзінае месца працы — жывёлагадоўчая ферма «Жымаслаўль» на 2 тысячы галоў. Але ж заробак… Трактарысты пасля ўборкі атрымліваюць бясплатна па 2–3 тоны зерня.

Старыя з настальгіяй узгадваюць заможныя часы да прыходу Саветаў. Бацька 79-гадовай пані Багдзюль меў засценак з мілым яе сэрцу назовам Божы Дар. Служыў у Войску Польскім у «чвартым палку ўланаў». Лавіў «шпіёнаў», што з СССР праз «сходнія крэсы» пераходзілі ў Нямеччыну. НКУС раскулачыла і адправіла яго на 10 год па 58-м артыкуле ў Нарыльск, дзе будаваў чыгунку. Пасля памёр у шахце ў Карагандзе. Спытаю, ці трымаюць крыўду на Савецкую дый цяперашнюю ўладу?

— Канешне! Лукашэнка мне ж нічога не вярнуў. Унучка пытаецца — бабуля, што ты на ўсіх здымках у адной і той жа сукенцы? А на вачах — некалі свае 50 гектараў зямлі ды 40 гектараў саду.

Да слова, супраціў камуністычнай уладзе прымаў тут і адкрытыя формы. Я яшчэ паспеў сустрэцца з Янам Навіцкім — асобай легендарнай і паважанай на ўсёй Іўеўшчыне. Гэта дзякуючы яму некранутым застаўся касцёл Святога Уладзіслава.

У 1974 годзе тагачасныя калгасныя кіраўнікі вырашылі зрабіць з храма лазню. Дзядзька Ян, які граў там на аргане, арганізаваў дзясяткі лістоў ад пратэстуючых вернікаў ва ўсе інстанцыі — ад абласнога ўпраўлення культуры да ЦК КПСС.

У КДБ яго на допыты выклікалі па 2 разы на тыдзень. Здзекаваліся і пагражалі, што дзеці «згібеюць» і «нікуды ніколі не выедуць са двара». Правакавалі — паставілі муку вазіць з кабетамі, якім далі «заданне» ўкрасці колькі мяхоў, каб павесіць на Навіцкага справу. Але вяскоўкі яго не здалі — рассыпалі муку па машыне. Мне ў часе размовы ён сказаў:

— Каб райкам загадаў старшыні калгаса павесіць мяне — павесілі б. Але я быў «пасвенціўшыся», што не паддамся партыі гэтай…

Аднак на ўсіх постсавецкіх мясцовых выбарах яўка ў Суботніках была ці не стоадсоткавая. Сваё тлумачэнне мне даў настаўнік і экс-старшыня выбарчай камісіі Іван Курсевіч:

— З калгасных часоў старыя выбаршчыкі трасуцца: не прагаласуеш як загадаў старшыня сельсавета, значыць, кармоў не выпішуць ці карову на далёкія загоны гнаць прымусяць. Быў выпадак, смех і гора, — балатаваліся на адным участку доктар і брыгадзір. І вось бабулька, да якой прыехалі са скрынямі, кажа — дзеткі, каго ж мне выкрэсліваць? Доктара — дык не будзе лячыць, брыгадзіра — сена не дасць. Хай лепш удвох застаюцца! Галоўны козыр у руках улады — тое, што паставіла насельнікаў у стан жабрацтва. І ўвесь час удала гэтым карыстаецца…

## Малая радзіма пра Зянона

На выбарах 1994, нягледзячы на шалёную антыпазнякоўскую прапаганду, за Зянона прагаласавала больш за 70 працэнтаў яго аднавяскоўцаў. У вёсцы тады існавала суполка БНФ. Пасля распалася і на ўсіх наступных выбарах фронт цярпеў паразу.



Фота аўтара

Сцяпан Мураўёў

Былы дырэктар і настаўнік гісторыі мясцовай школы, 88-гадовы Сцяпан Ігнатавіч Мураўёў паразу Зянона Пазьняка на першых у краіне выбарах тлумачыў тым, што той напужаў вяскоўцаў «разгонам калгасаў», адменай пенсій, поўным разрывам сувязей з Расіяй. Пра гэта пісалася ў сфальшаваных і раскіданых па вёсцы ўлётках, з адпаведна «адрэдагаванай» праграмай БНФ. У апошнюю сустрэчу Сцяпан Ігнатавіч ударыўся ў школьныя ўспаміны пра юнага Пазьняка:

— Вучыўся добра, быў сябрам драматычнага гуртка. Але ў хаце выхаванне было яўна не савецкае. Да прыкладу, у трэцім класе намаляваў сябе вугальныя вусы «пад Пілсудскага» і некалькі гадзін такім сядзеў на ўроках. Я сам за ручку цягнуў яго ў прыбіральню пад кран. А яшчэ любіў тузаць за коскі дзяўчат. Але моцна і назаўжды паважаю яго пасля Курапат. Перадайце праз газету маё яму прывітанне!

Спадарыня Аза Юркіна была ў Суботнікі размеркавана адразу пасля заканчэння пeдінстытута. У Зянона выкладала расейскую мову і літаратуру ў 9 класе. Яна ўспамінае:

— Ён часта бываў прастуджаным. І каб перамагчы хваробы, актыўна займаўся спортам, у прыватнасці, гіравым. У выніку, узніклі праблемы з сэрцам, былі пропускі заняткаў. Але я заўжды на ўроках адчувала яго сур'ёзны, удумлівы позірк. Яму падабаліся героі дзеяння, што ў рашучы момант не вагаліся, а ведалі, што рабіць. Такія, як Сяргей Цюленін з «Маладой гвардыі» Фадзеева. Пра апошняга напісаў мне сачыненне. Не памятаю, аднак, каб з кім-небудзь моцна сябраваў…

…На першых прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе аўтар гэтых радкоў быў даверанай асобай кандыдата Зянона Пазьняка. У часе кампаніі я рыхтаваў перадвыбарчыя эфіры лідара БНФ на дзяржаўным радыё. Ва ўладных СМІ панавала сапраўдная вакханалія, калі яго бацькі, родныя хлусліва называліся «паліцаямі», «фашысцкімі прыслугачамі». Зянон Станіслававіч пасля аднаго з удалых запісаў прыгадаў свайго дзядзьку, камандзіра танка, які згарэў пры пераправе праз Одэр, прапусціўшы наперад цаной жыцця ўвесь экіпаж. Я прапанаваў тут жа ўключыць факт у эфір. Але ў Пазьняка заігралі жаўлакі: «Гэта нельга, не для ўсіх, бо мая інтымная рэч!»

Дагэтуль не магу даць адказ, ці мае права на такое рашэнне публічны палітык, калі супраць яго высоўваюцца канкрэтныя асабістыя абвінавачванні.

Пры канцы вандроўкі за мной заехаў мой добры знаёмы, сябра ТБМ, краязнаўца Міхась Бурачэўскі. Ён на Лідчыне правёў не адну кампанію «за Пазьняка і БНФ». Далучыўся да дыскусіі:



Фота аўтара

Міхась Бурачэўскі

— У беларусаў здаўна выпрацавалася нялепшая традыцыя — з большай ахвотай гаварыць і падтрымліваць чужых, а не сваіх пpaрокаў. Да таго ж, сямейства Пазьняка з вясковага шэрагу ў Суботніках заўжды выбівалася сваёй глыбокай адукаванасцю і, па тагачасных мерках, заможнасцю. З іншага боку, у апазіцыі да ўлады сёння знаходзіцца кожны, хто адчуў, як пагоршылася жыццё. І калі шлях Праўды да чалавечай душы для некага перакрыты быў хлуслівай прапагандай, у пэўны час свядомасць сябе праявіць.

***

Разам з Міхасём перад ад'ездам заходзім у касцёл Святога Уладзіслава. Спыняемся перад партрэтам графа Умястоўскага, чытаем жалобны надпіс, перад якім неаднаразова ў розныя гады стаяў і Зянон Пазьняк. Вось гэтыя словы, якія таксама паўтараю ў цяжкія хвіліны: «Зломлены, але не жалюся».

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 11 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладрама «Лекцыі для хатніх гаспадынь» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Клуб рэдактараў.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.55** Камедыйная меладрама «Сям'я» (Расія).
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія).
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Фільм-катастрофа «Немагчымае» (Іспанія).

**5 БЕЛАРУСЬ**

**08.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Тотэнхэм» - «Ньюкасл».
**09.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Манчэстар Юнайтэд» - «Арсенал».
**11.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Сандэрленд» - «Манчэстар Сіці».
**13.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Сербія.
**15.05** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. «Шахцёр» - «Дынама» (Мінск).
**16.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Фінал. Расія - Германія.
**19.05** Футбол. Кубак канфедэрацыі. Бразілія - Японія.
**21.00** Авертайм.
**21.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.15** Футбол. Кубак канфедэрацый. Мексіка - Італія.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мінск.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мінская вобласць.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «100 адсоткаў».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Вялікія таямніцы вады».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Дзеці ветру». Францыя - Вялікабрытанія - Іспанія, 2004г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.25** «Дэсантура. Ніхто, акрамя нас». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай» (СССР).
**14.45** Гістарычная драма «Бывай, мая каралева!» (Францыя - Іспанія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** «Дабраранак».
**08.00, 13.15, 18.55, 00.10** «Калейдаскоп».
**08.05, 13.25, 00.15** «Год у гісторыі».
**08.20, 18.25** «Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі - смелы прапаведнік імя Хрыстова». Дак. фільм пра жыццё і творчасць рускага пісьменніка.
**08.55** «Пейзажы скрозь час». Этрэта. Францыя.
**09.20** «Палескі пачастунак». Салат «Горкая капуста».
**09.35** «Пацалунак Сакрата». Фільм пяты «Плача анёл Шагала». 1-я і 2-я часткі.
**11.15, 22.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**11.40** «Пацалунак Сакрата». Фільм шосты «Таямніца залатых Апосталаў». 1-я і 2-я часткі.
**13.35, 23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Віталя Вольскага.
**14.05** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Ткачыхы.
**14.35** «Цуды прыроды». Патагонія, Венгрыя. Беліз. Новая Зеландыя.
**15.05** «Апошні сон Барыса Сачанкі». Дак. фільм.
**15.15** «Антон Іванавіч злуецца». Мастацкі фільм.
**16.35** «Наперад у мінулае».
**17.05** «Лабірынты». Гісторыя беларускіх яўрэяў.
**17.30** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм матывах апавядання Міхася Лынькова.
**17.55** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**19.00** «Чапаеў». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Атланты і карыятыды». 1-2 серыі.
**22.50** «Раскол». 1-я серыя.

**Discovery Channel**

**05.00** Залатая ліхаманка.
**05.50, 10.20, 01.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**06.40** Як гэта працуе?.
**07.10, 02.45** Як гэта зроблена?.
**07.35, 08.05** Паляўнічыя за рэліквіямі.
**08.30, 22.00** Невытлумачальнае.
**09.25, 01.55** Разбуральнікі легенд.
**11.15, 03.10** Хуткія і гучныя.
**12.10, 05.05** Махінатары.
**13.05** Пятая перадача.
**13.30** Хлопцы з гарматамі.
**14.25, 15.20, 16.15, 17.10, 18.05, 19.00, 20.00** Беар Грылс.
**21.00** Правілы пазадарожнага руху.
**22.55** Top Gear.
**23.50** Наезнікі пекла.
**00.40** Вокамгненныя катастрофы.

**КИНО**

**06.30, 12.30** Дэтэктыў «Кальe Шарлоты».
**09.55, 15.55** Кінафантазія «Фа мінор».
**10.30, 16.30** Камедыя «Бацькі і дзяды».
**11.55** «Плюс кіно».
**18.30, 00.30** Кінааповесць «Мой сябар Іван Лапшын».
**20.30, 02.30** Камедыя «Камедыя памылак».
**22.55, 04.55** Ваенная кінааповесць «Два байцы», 1943 г.

**МИР**

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Цалуюцца світанкі».
**10.50, 00.50** «Свае людзі».
**10.55** Выніковая праграма «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.20, 03.05** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**15.20, 22.15** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Бумеранг з мінулага».
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Т/с «Згуба імперыі».
**21.25** «Акцэнты».
**21.35** Д/ф «Паміж Астаной і Масквой».
**23.10** Т/с «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**01.15** М/ф «Спадарыня».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Зона «Свабоды». Погляд на Беларусь журналістаў радыё «Свабода».
**07.30** «Восеньскія барды», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** «Дом», серыял: 9 серыя.
**18.00** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.55** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Два на два (тэледыскусія ад Паўла Мажэйкі ды Дзмітрыя Гурневіча): Т. Караткевіч і В. Каратыш – пра маладых у палітыцы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Стадыён бяздомных», трагікамедыя, 2008 г., Польшча.
**23.25** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**00.05** Аб'ектыў.

## 12 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**10.55** Дак. цыкл «Будзь у тонусе».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Арэна.
**15.45** Серыял «Джамайка».
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Серыял «Джамайка».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**08.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**09.10** Валейбол. Еўраліга. Беларусь - Харватыя.
**10.50** Авертайм.
**11.15** Баскетбол. Ліга ВТБ.
**13.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Норвіч» - «Вест Хэм».
**14.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Ліверпуль» - «Фулхэм».
**16.40** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Літва - Беларусь.
**18.25** Гандбол. Чэмпіянат свету-2013. Мужчыны. 1/8 фіналу. Харватыя - Беларусь.
**20.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Манчэстар Сіці - ЦСКА.
**21.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Ювентус» - «Рэал Мадрыд».

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Вялікія таямніцы вады».
**10.15** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Фільм «Траса 60» (Канада - ЗША, 2001 г.).
**16.15** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Фантоцы сыходзіць на пенсію» (Італія, 1988 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Дэсантура. Ніхто, акрамя нас». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Месцы сілы.
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Ювентус» - «Рэал». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** «Дабраранак».
**08.00, 12.20, 19.00, 00.10** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.25, 00.15** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані». Аграсядзіба Буды.
**08.55** «Сафія Слуцкая. Апошняя з роду Алелькавічаў». Дак. фільм.
**09.20** «Музычны майстар».
**09.35** «Раскол». 1-я серыя.
**10.25, 22.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.50** «Чапаеў». Мастацкі фільм.
**12.40, 23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака, народнага артыста БССР Валерыя Глушакова.
**13.05** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Саломапляценне.
**13.35** «Пейзажы скрозь час». Ван Гог у Сэн-Рэмі дэ Праванс.
**14.05** «Лабірынты». Беларускі вучоны-заолаг, урач, прыродазнаўца Бенедыкт Дыбоўскі.
**14.35** «Музеум». Маляваныя дываны.
**14.50** «Свет прыроды». Пачатак еўрапейскіх рэк.
**15.15** «Атланты і карыятыды». 1-2 серыі.
**17.00** «Наша спадчына». Кармянская святыня.
**17.15** «Кола». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання А.Дударава «Святая птушка».
**17.35** «Скарбніца Гомельшчыны». У госці да пана Герарда.
**18.05** «У пошуках новай зямлі». Дак. фільм пра жыццё і творчасць народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа.
**18.35** «Цуды прыроды». Карыбы. Аўстралія.
**19.10** «Дзяўчына з характарам». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Атланты і карыятыды». 3-4 серыі.
**22.50** «Раскол». 2-я серыя.

**Discovery Channel**

**05.00, 14.25** Залатая ліхаманка.
**05.50, 10.20, 01.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**06.40, 18.35** Як гэта працуе?.
**07.10, 18.05, 02.45** Як гэта зроблена?.
**07.35, 08.05, 15.20, 15.50** Бітва за нерухомасць.
**08.30** Невытлумачальнае.
**09.25, 01.55** Разбуральнікі легенд.
**11.15, 03.10** Хуткія і гучныя.
**12.10, 13.05, 05.05** Махінатары.
**13.30** Хлопцы з гарматамі.
**16.15** Беар Грылс.
**17.10** Правілы пазадарожнага руху.
**19.00** Дылеры.
**20.00, 20.30** Паляўнічыя за складамі.
**21.00, 21.30** Скарбашукальнікі Амерыкі.
**22.00** Цуды Сусвету.
**22.55** Top Gear.
**23.50** Наезнікі пекла.
**00.40** Вокамгненныя катастрофы.

**КИНО**

**06.30, 12.30** Кінааповесць «Мой сябар Іван Лапшын».
**08.30, 14.30** Камедыя «Камедыя памылак».
**10.55, 16.55** Ваенная кінааповесць «Два байцы», 1943 г.
**18.30, 00.40** М/ф «Галава Гаргоны».
**20.05** «Плюс кіно».
**20.40, 02.30** Драма «Маленькая Вера».
**22.55, 04.45** Кінааповесць «У добры час!».

**МИР**

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Дыяменты для Марыі».
**10.50, 00.40** «Свае людзі».
**11.20** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.20, 02.45** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**15.20, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Бумеранг з мінулага».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Т/са «Згуба імперыі».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40, 05.25** Д/ф «Рэальны свет».
**23.00** Т/с «Таемная варта».
**01.05** М/ф «Мае чарнічныя ночы».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Два на два (тэледыскусія ад Паўла Мажэйкі ды Дзмітрыя Гурневіча): Т. Караткевіч і В. Каратыш – пра маладых у палітыцы.
**09.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», 2012 г., Беларусь.
**18.40** Моўнік: Гук «дж».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Беларусы ў Польшчы.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.50** «Белая візітоўка», серыял: 2 серыя.
**22.50** Аб'ектыў.

## 13 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дакументальны цыкл «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**16.35** Зямельнае пытанне.
**17.05** БеларусьLIFE.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Адмысловы рэпартаж.
**00.50** Серыял «Джамайка».

### 5 Беларусь

**08.05** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. 1/4 фіналу.
**10.05** Тэніс. Турнір у Цынцынаці. Фінал.
**12.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Барселона» - «Мілан».
**13.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Зеніт» - «Порту».
**15.50** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск) Прамая трансляцыя.
**18.10** Дакументальны фільм «Кропка адліку. У Германію за досведам».
**18.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Металург» (Жлобін) - «Хімік-СКА». Прамая трансляцыя.
**21.10** Гандбол. SEHA-ліга.
**22.35** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Чэхія.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Фільм «Фантоцы сыходзіць на пенсію» (Італія, 1988 г.).
**15.55** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Прыватнае жыццё Піпы Лі» (ЗША, 2009 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажаліцца».
**00.25** «Дэсантура. Ніхто, акрамя нас». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Цудоўная сямёрка. Вяртанне.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**13.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**14.55** Трагікамедыя «Восеньскія сны».
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Барселона» - «Мілан». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### 3 Беларусь

**07.30** «Дабраранак».
**08.00, 12.10, 18.30, 00.05** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.15, 00.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Камертон». Народная артыстка Расіі Святлана Кручкова.
**08.50** «З жыцця мінскіх губернатараў». Інстытут мінскіх губернатараў у 1812 годзе.
**09.20** «Найменні і вобразы». Народны майстар Надзея Салейка.
**09.35** «Раскол». 2-я серыя.
**10.25, 22.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** «Дзяўчына з характарам». Мастацкі фільм.
**12.30, 23.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі І.Мележа.
**13.00** «Цуды прыроды». Чэхія. Куба. Фіджы.
**13.30** «Палескі пачастунак». Гарбузовая каша.
**13.45** «Знакі лёсу. Віктар Казько». Дак. фільм.
**14.15** «Роднай песні ваявода». Кампазітар, мастак, паэт Ігар Палівода.
**14.40** «Карані». Жыццё беларусаў на Бранштчыне.
**15.15** «Атланты і карыятыды». 3-4 серыі.
**16.50** «Струны прасторы і часу». Дырактар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў.
**17.20** «Спецыяльны рэпартаж». 100 нашых ідэй.
**17.30** «Пейзажы скрозь час». Поль Сезан «Гара Сэнт-Віктуар».
**18.05** «Пад аблокамі». Дак. фільм пра парашутыста і альпініста В.Чыжыка.
**18.40** «Сувораў». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Атланты і карыятыды». 5-6 серыі.
**22.45** «Раскол». 3-я серыя.

### Discovery Channel

**05.00, 14.25** Залатая ліхаманка.
**05.50, 10.20, 01.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**06.40** Як гэта працуе?
**07.10** Як гэта зроблена?
**07.35, 08.05, 15.20** Бітва за нерухомасць.
**08.30, 22.00** Цуды Сусвету.
**09.25, 01.55** Разбуральнікі легенд.
**11.15, 03.10** Хуткія і гучныя.
**12.10, 13.05, 05.05** Махінатары.
**13.30** Хлопцы з гарматамі.
**15.50** Бітва за нерухомасць.
**16.15, 16.45** Паляўнічыя за складамі.
**17.10, 17.40** Скарбашукальнікі Амерыкі.
**18.05** Як гэта зроблена?
**18.35** Як гэта працуе?
**19.00** Пяцёрка лепшых.
**20.00** Найбуйнейшы ў свеце карабель.
**21.00** Чаму? Пытанні светабудовы.
**22.55** Top Gear.
**23.50** Наезнікі пекла.
**00.40** Вокамгненныя катастрофы.
**02.45** Як гэта зроблена?

### Кино

**06.30, 12.40** М/ф «Галава Гаргоны».
**08.05** «Плюс кіно».
**08.40** Драма «Маленькая Вера».
**10.55, 16.45** Кінааповесць «У добры час!».
**14.30** Драма «Маленькая Вера».
**18.30** Камедыя «Асцярожна, бабуля!».
**20.30, 02.30** Драма «Крадзеж».
**23.00, 04.00** М/ф «Без права на правал».
**00.30** Камедыя «Асцярожна, бабуля!».

### МИР

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Справа «Пярэстых».
**10.50, 00.40** «Свае людзі».
**11.35** «Агульны інтарэс».
**12.20, 02.30** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце мінулага».
**15.20, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Бумеранг з мінулага».
**18.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Т/с «Дом на набярэжнай».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «Рэальны свет».
**23.00** Т/с «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**01.05** М/ф «Цалуюцца світанкі».
**04.00** Д/ф «У свеце цудаў».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Беларусы ў Польшчы.
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: пачатак канстытуцыйнага права Беларусі.
**09.00** Аб'ектыў.
**17.55** «Агнём і мячом», серыял: 3 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Словы-выгнаннікі («кудою», «сюдою», «тудою»).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 10 серыя.
**22.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі): 2003-і. У гэтым годзе мы развіталіся з геніем і сумленнем нацыі – Васілём Быкавым.
**22.45** «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», 2012 г., Беларусь.
**23.30** Аб'ектыў.

## 14 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дакументальны цыкл «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**16.30** Каробка перадач.
**17.05** Таямніцы следства.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). Заключная серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).

### 5 Беларусь

**08.05** Дакументальны фільм «Кропка адліку. У Германію за досведам».
**08.35** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Металург» (Жлобін) - «Хімік-СКА».
**10.25** Фактар сілы.
**10.50** Хакей. КХЛ. «Металург» (Магнітагорск) - «Дынама» (Мінск).
**12.55** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Паўфінал.
**14.55** Футбол. ЧС-2014. Адборачны матч. Беларусь - Францыя.
**16.40** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**17.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Металург» (Македонія) - «Дынама-Мінск».
**18.45** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. «Шахцёр» - «Дынама» (Мінск).
**20.30** Час футболу.
**21.20** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Дынама-Мінск» - «Барселона».
**22.55** Дакументальны фільм «Кропка адліку. Погляд з-за куліс».

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.00** Фільм «Прыватнае жыццё Піпы Лі» (ЗША, 2009 г.).
**15.50** «Увіясце сабе».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «З пекла ў пекла» (Беларусь - Германія, 1996 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Дэсантура. Ніхто, акрамя нас». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 Беларусь

**07.30** Трагікамедыя «Восеньскія сны».
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прэм'ера. «Другое сэрца». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**09.20** Мультфільмы.
**10.00** Фільм-казка «Асліная шкура» (СССР).
**11.25** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**13.20** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**14.55** Ваенна-прыгодніцкі баявік «У жніўні 44-га...» (Беларусь - Расія).
**17.10** Камедыя «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР).
**18.55** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Санкт-Гален» - «Валенсія». Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.45 «КЕНО».
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Севілля» - «Слован». Прамая трансляцыя.

### 3 Беларусь

**07.30** «Дабраранак».
**08.00, 12.40, 19.00, 00.05** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.45, 00.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Лабірынты». Прывіды старасвецкай Лошыцы.
**08.50** «Музеум». Унікальная жырандоль, выкаваная паэтам-кавалём Паўлюком Багрымам.
**09.00** «Карані». Дом апекі ў Польшчы.
**09.35** «Раскол». 3-я серыя.
**10.25, 22.20** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.50** «Сувораў». Мастацкі фільм.
**13.00, 23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага.
**13.25** «Росчырк часу». Мастачка Таццяна Арасланава.
**13.40** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Карачэўскі мох».
**14.10** «Загадкі дзеда Кандрата». Дак. фільм.
**14.40** «Таямніцы біяграфіі». Народны мастак СССР і Беларусі Міхаіл Савіцкі.
**15.15** «Атланты і карыятыды». 5-я і 6-я серыі.
**16.50** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Стары замак у Гродне.
**17.20** «Маем рэчы». Хлеб.
**17.35** «Настальжы». Творчы пошук праз усё жыццё. Пра заслужаную артыстку Рэспублікі Беларусь Таццяну Мархель.
**18.00** «Лабірынты». Архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі.
**18.35** «Хлапок адной далоні». Мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь Валянцін Дудкевіч.
**19.10** «Музычная гісторыя». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Атланты і карыятыды». 7-я і 8-я серыі.
**22.50** «Раскол». 4-я серыя.

### Discovery Channel

**05.00, 14.25** Залатая ліхаманка.
**05.50** Мужчына, жанчына, прырода.
**06.40, 18.35** Як гэта працуе?.
**07.10, 18.05, 02.45** Як гэта зроблена?.
**07.35, 08.05** Бітва за нерухомасць.
**08.30, 22.00** Цуды Сусвету.
**09.25, 01.55** Разбуральнікі легенд.
**10.20, 01.05** Голыя і напалоханыя.
**11.15, 19.00, 03.10** Хуткія і гучныя.
**12.10, 13.05, 20.00, 05.05** Махінатары.
**13.30** Хлопцы з гарматамі.
**15.20, 15.50** Адпетыя рыелтары.
**16.15** Чаму? Пытанні светабудовы.
**17.10** Пяцёрка лепшых.
**21.00** Top Gear.
**22.55** Top Gear.
**23.50** Наезнікі пекла.
**00.40** Вокамгненныя катастрофы.

### Кино

**06.30, 12.30** Камедыя «Асцярожна, бабуля!».
**08.30, 14.35** Драма «Крадзеж».
**11.00, 17.05** М/ф «Без права на правал».
**14.00** «Плюс кіно».
**18.30, 00.30** Дэтэктыў «Прэферанс па пятніцах».
**20.30, 02.30** Камедыя «Уяўна хворы».
**22.40, 05.40** Драма «Дзень камандзіра дывізіі».

### МИР

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Расстанне».
**10.50, 00.40** «Свае людзі».
**11.15** «Дыяспары».
**11.45** «Кыргызстан у асобах».
**12.20, 02.25** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**15.20, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Бумеранг з мінулага».
**18.25** «Злачынствы і пакаранне».
**19.00** Т/с «Дом на набярэжнай».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** «Наша марка».
**23.00** Т/с «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**01.05** М/ф «Дыяменты для Марыі».
**04.05** Д/ф «У свеце мінулага».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права. Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Прозвішча ў пашпарце: як яно пішацца лацініцаю?
**09.00** Аб'ектыў.
**18.00** «Глыбокая вада–2», серыял: 10 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма). Белсатаўская камера пранікае ўсюды, дзе цікава, і фіксуе ўсё, што варта фіксаваць!.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Час гонару», серыял: 59 серыя.
**22.10** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**22.30** «Дзень Перамогі», дак. фільм, 1997 г., Польшча.
**23.20** Аб'ектыў.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# САНІТАР І ФАЛЬКЛОР

Алег НОВІКАЎ



**Сышоў з пасады, бадай, самы каларытны персанаж расійскай палітыкі — Генадзь Анішчанка. Ён даўно ўжо стаў героем народных анекдотаў.**

Увогуле, санітарная служба ў Расіі існуе з 1922 года, калі Савет народных камісараў выдаў адпаведны дэкрэт. Аднак наўрад ці нехта здольны ўзгадаць хоць аднаго кіраўніка гэтага дэпартамента ў савецкія або поставецкія часы. Толькі пры Анішчанку кантора стала адным з самых заўважных ведамстваў расійскай вертыкалі ўлады. Як жартуе адна з маскоўскіх газет: «Генадзь Анішчанка на працягу доўгіх 17 гадоў быў сакрэтным біялагічным парасонам Расіі і практычна ў адзіночку абараняў межы краіны і яе грамадзян ад чумы, свінога і птушынага грыпу, сібірскай язвы, пестыцыдаў, дыярэі і энурэзу. І вось ён сыходзіць, пакінуўшы Расію на разарванне яе ворагам. Ці выжыве Расія без Анішчанкі?»

Феномен Анішчанкі можна растлумачыць па-рознаму. Папершае, сам экс-кіраўнік санітарнай службы Расіі — вялікі арыгінал, які на роўных канкураваў з тым жа Уладзімірам Жырыноўскім. Дастаткова ўзгадаць некаторыя перлы ад Анішчанкі. «Варона — гэта воўк у пер'ях, — сказаў ён у 2006 годзе, разважаючы пра пагрозу распаўсюджвання птушынага грыпу. — Яе трэба бязлітасна знішчаць». Або такое: «Калі дзяўчына бяжыць у кароценькай спадніцы з голымі ножкамі, уяўляеце, які масіў цела астуджаецца адначасова».

Таксама Анішчанка быў вядомы сваім канфліктным характарам. Яго спрэчка з Дзярждумай наконт закону аб абмежаванні палення перайшла ўсе этычныя рамкі. Пасля таго, як ён на людзях заклікаў да роспуску парламента, дэпутат Андрэй Макараў прапанаваў «накіраваць спадара Анішчанку на псіхіятрычны агляд».

Аднак наўрад ці зорка Генадзя Рыгоравіча была такой яскравай без адпаведнага палітычнага фону. Пасля эпохі газавых войнаў на прасторах СНД пачалася эра гандлёвых. Выключная роля ў такіх канфліктах адводзіцца санітарным органам, якія забараняюць імпарт таго ці іншага тавару, адшукаўшы там нейкі небяспечны для здароўя суайчыннікаў мікроб або хімікат. У гэтым Анішчанку, сапраўды, не было роўных, што добра праілюстравана ў народным гумары: «Даведаўшыся, што імпартная зараза, па сутнасці, з'яўляецца асяроддзем для распаўсюджвання вірусаў, амаль 20 гадоў атручвае жыццё простых расіян, Генадзь Анішчанка забараніў увоз на тэрыторыю Расійскай Федэрацыі прадукцыі кампаніі Microsoft».

Палітычная ангажаванасць некаторых забаронаў санітарнай службы Расіі была відавочная. У выніку МЗС той жа Грузіі і Малдовы адкрытым тэкстам казалі, што забарона на ўвоз іх прадукцыі прадыктаваны не санітарнымі, а хутчэй знешнепалітычнымі прычынамі. У выніку палітыка Анішчанкі часта даводзіла фактычна да міжнародных канфліктаў.

Самыя рэзанансныя з іх — малочная вайна з Беларуссю, вінны канфлікт з Грузіяй і Малдовай, нядаўняя забарона імпарту літоўскага малака. Аднак больш за ўсё санітар Расіі «насаліў» украінцам. Тут пасля яго адстаўкі нават узнікла нізавая ініцыятыва — даць адной з вуліц «Імя адстаўкі Анішчанкі».

Не дзіўна, што ў масе анекдотаў пра Анішчанку прыкладна палова звязаная з украінскай тэматыкай:

«Пасля завяршэння баксёрскага паядынку паміж Клічко і Паветкіным прэзідэнт Расіі павіншаваў Кабзона з добрым выкананнем гімна Расіі, а галоўны санітарны ўрач Анішчанка забараніў уезд у Расію ўкраінскіх баксёраў, «якія наносяць шкоду здароўю расейцаў».

«Галоўны санітарны ўрач РФ Анішчанка рыхтуецца праверыць, ці падыходзяць украінскія газавыя трубы для транспарціроўкі расійскага газу».

Апошні раз Анішчанка пасварыўся з украінцамі літаральна напярэдадні сваёй адстаўкі. Маем на ўвазе забарону імпарту цукерак кампаніі «Roshen». Цукерачная вайна таксама стала матэрыялам для жартаў: «Следам за цукеркамі «Roshen» у Расіі вырашылі ў рэстаранах і кулінарных забараніць «катлеты па-кіеўску» і «боршч украінскі»

Аднак Анішчанка дастаў не толькі жыхароў краін СНД. Будучы галоўным санітарным урачом Расіі, на працягу доўгіх гадоў ён даваў забаўныя, а то і адкрыта недарэчныя парады сваім суайчыннікам. Напрыклад, у рамках барацьбы з грыпам ён рэкамендаваў расійскім грамадзянам трымаць дыстанцыю ад птушынага памёту. Галоўны санітарны ўрач Расіі таксама заклікаў утрымацца ад удзелу ў акцыях пратэсту, апасаючыся, што на мітынгах і дэманстрацыях грамадзяне будуць есці снег і, адпаведна, застудзяцца.

Кранальны клопат Анішчанкі пра здароўе людзей стаў добрым матэрыялам для прыколаў: «Генадзь Анішчанка назваў галоўную крыніцу распаўсюджвання свінога грыпу ў Расіі. Спектакль «Тры парасяці» ўжо зняты з рэпертуару ўсіх дзіцячых тэатраў краіны».

Найбольш не спадабаліся рускім радыкальныя ініцыятывы Анішчанка па барацьбе з цыгарэтамі і гарэлкай. Санітар выступаў за канчатковае вырашэнне гэтай праблемы. Напрыклад, ён патрабаваў, каб паленне ў Расіі было цалкам забаронена.

Рэакцыя нізоў не прымусіла сябе чакаць: «Галоўны санітарны ўрач Генадзь Анішчанка заклікаў расіян замяніць халоднае піва гарачай гарбатай. Расіяне заклікаюць Анішчанку змяніць крэсла на фрэзерны станок, а потым ужо даваць парады».

Праўда, бескампрамісны падыход Анішчанкі да такой з'явы, як алкагалізм, стварыў яму пазітыўны вобраз у вачах шматлікіх жанчын. У прынцыпе адыёзнасць і адначасовая харызматычнасць Анішчанкі павінна была рана ці позна выклікаць адпаведную рэакцыю кіраўніцтва. Прэса пісала, што па пазнавальнасці ён даўно абышоў прэм'ера Мядзведзева і саступае па папулярнасці ў Расіі выключна Пуціну.

Але гучнай адстаўкі не было. З улікам таго, што Анішчанку споўнілася 60 гадоў, яго працоўны кантракт аўтаматычна закончыўся. Новага кіраўніка санітарнага ведамства Ганну Папову газеты характарызуюць як проста добрага прафесіянала. Відавочна, што чакаць ад яе фокусаў а-ля Анішчанка не варта. Тым больш, што гэтую структуру, бадай, чакае рэформа. Праўда, рэформа рэформай, а тое, што санітарыя застанецца дубінкай Крамля для вырашэння адносін з краінамі-суседзямі, не выклікае сумневаў.

Што тычыцца асабістага лёсу Генадзя Анішчанкі, то яшчэ не факт, што яго чакае спакойная пенсія. У расійскай прэсе шмат спекуляцый наконт таго, што Мядзведзеў можа даручыць Генадзю Рыгоравічу нейкі іншы дэпартамент.

У чаканні прызначэння людзі ўжо складаюць новыя анекдоты: «Прызначаны на пасаду міністра абароны Генадзь Анішчанка перш за ўсё забараніў усе замежныя ўзброеныя сілы».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГУЛЬНАРА КАРЫМАВА



Дачка ўзбекскага прэзідэнта Іслама Карымава яшчэ нядаўна разглядалі як магчымага пераемніка бацькі. Але 6 лістапада ўвесь інтэрнэт Сярэдняй Азіі пачаў кішэць чуткамі пра тое, што Гульнара трапіла ў апалу. Быццам, Карымаву стала вядома пра ўцягнутасць яго старэйшай дачкі ў карупцыю. Пра тое, што вакол Гульнары робіцца нешта не тое, сведчыць маўчанне тэлеканалаў, якія ёй належаць. Таксама вядома, што арыштаваныя рахункі не толькі гэтых тэлеканалаў, аднак і яе асабістага фонду. Ускосна пра канфлікт у адносінах з бацькам сведчыць і паведамленне Гульнары ў сетцы Twitter: «Таварыш Сталін быў і ёсць... і гэта мой бацька! І застанецца ім, пакуль я не здохну...» Самыя злыя языкі кажуць нават, што Іслам Карымаў нават збіў сваю дачку. Відавочна, што ўся гэта гісторыя яўна паўплывае на характар прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. Раней хадзілі чуткі, што 75-гадовы Карымаў з-за праблемаў са здароўем на гэты раз не будзе пераабірацца на вышэйшую пасаду, а ў якасці пераемніка прапануе Гульнару. Цяпер шансы ў Гульнары не такія добрыя. А гэта значыць, што ўнутры карымаўскага клану можа пачацца вайна за кандыдатуру на пасаду прэзідэнта.

### ЯГОР БАРЫСАЎ



Ягор Барысаў — губернатар Якуціі. Як вядома, цяпер у Якуціі ў шэрагу рэгіёнаў адчуваецца дэфіцыт прадуктаў харчавання, а кацельні пераводзяць у рэжым эканоміі з-за адсутнасці паліва. Барысаўская адміністрацыя лічыць, што прычынай ёсць нестабільнае надвор'е — у гэтым годзе раней замерзла вада ў рэках, па якіх цяпер не могуць прайсці караблі. Між тым, узнікла новая больш жудасная версія падзей у гэтым сібірскім рэгіёне. Версію агучыла Кампартыя Расійскай Федэрацыі (КПРФ). На думку камуністаў, перабоі з пастаўкамі і адсутнасць цяпла ў згаданых арэалах — частка плану Барысава, які марыць выцесніць рускае насельніцтва, якое галоўным чынам пражывае якраз у рэгіёнах, дзе цяпер назіраюцца праблемы. Для гэтага чыноўнікі Ягора Барысава, быццам, сарвалі тут ацяпляльны сезон. Сваю фантастычную версію зюганаўцы цэментуюць рознымі фактамі ціску на рускіх у боку тубыльцаў. Пачынаючы ад пратэкцыі Ягор Барысава для якутаў, патрабаваннем ведаць мову саха пры прыняцці на працу і заканчваючы стварэннем у Якуцку сеткі клубаў, куды, быццам, не пускаюць асобаў славянскага выгляду. Цяжка сказаць, наколькі гэта праўда. Аднак тое, што рускія бягуць з Якуціі, відавочна. За апошнія гады радыкальна змяніўся і нацыянальны склад рэспублікі. Калі ў савецкія часы колькасць тытульнай нацыі тут была 36%, то сёння яна складае ўжо 47%.

### ДЗІЛМА РУСЭФ



Прэзідэнт Бразіліі, здаецца, прыдумала, як узняць свой рэйтынг, што апошнім часам стабільна падае. Паводле яе прапановы парламенцкая камісія па пытаннях справядлівасці і канстытуцыі прапанавала дэпутатам Кангрэсу праект закону, адпаведна якому як мінімум 20 працэнтаў дэпутацкага корпусу нацыянальнага Кангрэсу і парламентаў мясцовых штатаў павінны складаць «каляровыя» (personas de color). Прасцей кажучы, гэта бразільцы нееўрапейскага паходжання. Тэма таго, што каляровыя ў Бразіліі з'яўляюцца маргіналамі, узнікла не так даўно. Між тым, па статыстыцы, яны, хаця і складаюць 50,7 працэнта насельніцтва краіны, практычна не прадстаўленыя ў заканадаўчых органах. Для прыкладу ў цяперашнім складзе Кангрэсу толькі 8 працэнтаў дэпутатаў маюць не белую скуру. Новы закон гарантуе каляровым 173 дэпутацкіх мандата. Каб забяспечыць такую квоту, выбаршчыкам у будучым прапануюць галасаваць на выбарах два разы — за дэпутатаў па агульным спісе і за дэпутатаў па «каляровым» спісе. Праўда, для гэтага законапраект павінен атрымаць падтрымку як у Кангрэсе, так і ў верхняй палаце — Сенаце. Між тым, нават аднапартыйцы Дзілмы з Партыі працоўных маюць сумнеў наконт неабходнасці закону. На іх думку, новая норма можа ўвесці ў бразільскі палітычны лексікон паняцце «раса», што вельмі небяспечна для палітычнай стабільнасці.

ЛЁСЫ

# Вінцук Вячорка: Я БЫЎ ЗВЫЧАЙНЫМ

Мабыць, калі шукаць нейкі мэйнстрым жыцьця Вінцука Вячоркі, то можна сказаць, што ён увесь час нешта пачынае. І самае галоўнае — працягвае шукаць зноў, калі знойдзенае было аднойчы страчана. А яшчэ яго можна назваць адным з самых інтэлігентных палітыкаў Беларусі, якога вельмі цяжка ўявіць у няволі. Асабліва, калі ўлічыць, што першы раз ён там аказаўся яшчэ трыццаць гадоў таму, а зараз Вінцуку толькі 52. Прапаную чытачам чарговы нарыс пра дзечоў Беларусі з серыі «Лёсы». Тэкст гутаркі на жаданьне суразмоўцы запісаны клясычным правапісам (тарашкевіцай).

**Аляксадр Тамковіч**



Фота з архіва Вінцука Вячоркі

Студэнцкія гады

## Пачатак жыцьця

«Я нарадзіўся ў Берасьці 7 ліпеня 1961 году. Між іншым, гэта дзень народзінаў Янкі Купалы і Марка Шагала. І Купальле (паводле юліянскага календара).

Бацька, Рыгор Мікалаевіч, быў эканамістам, маці, Аляўціна Сямёнаўна, працавала пэдагогам, рэдактарам. На жаль, бацькі ўжо няма. Маці, дзякуй Богу, жыве вельмі актыўна і з задавальненьнем удзельнічае ў беларускім грамадзка-культурным жыцьці.

Да 1974 года мы жылі ў Берасьці, дзе я хадзіў у сярэднюю школу нумар адзін, якая потым стала гімназіяй з матэматычным профілем. Патэнцыял бацькі як навукоўца і практыка (спэцыялізаваўся на асноўных фондах і банкаўскіх справах) быў ацэнены наверсе, і яго запрасілі дараднікам Пятра Машэрава ў эканамічных пытаньнях.

У свой час ён займаў высокія пасады, але хачу падкрэсьліць, што бацька трапіў у цэкоўскую структуру дзякуючы не партыйнаму кар'ерызму, а асабістым грунтоўным ведам і досьведу. Тая ўлада не змагла б доўга кіраваць без выкарыстаньня сапраўдных прафэсіяналаў.

Родам мой бацька са знакамітых Мерлінскіх хутароў, якія знаходзіліся на мяжы цяперашняга Столінскага раёна і Гомельскай вобласьці. Сёньня іх ужо няма, бо ў 1961 годзе ў тых мясьцінах зрабілі палігон для авіяцыі Варшаўскага дагавору. Там бязьмежныя балоты, ад якіх (з часоў Сталыпінскай рэформы) людзі адваёўвалі жыцьцёвую прастору. Палітую потам зямлю потым забралі бальшавікі. Усіх загналі ў калгас.

Нягледзячы на блізкасьць да камуністычнага істэблішмэнту (што мне ўзгадвалі вельмі часта), бацька ўсё жыцьцё мысьліў не зусім партыйнымі катэгорыямі, добра разумеў, што такое прыватная ўласнасьць і свая беларуская зямля. Гэта асабліва адчувалася падчас супольных выездаў у вёску, бліжэй да ягонай малой радзімы. Напэўна (і гадоў трыццаць таму гэта здавалася б парадаксальным), адзін з імпульсаў іншадумства я атрымаў дзякуючы яму. Нашмат пазьней Рыгор Вячорка, які ўжо меў досьвед макраэканамічнага рэгуляваньня эканомікі новапаўсталай незалежнай краіны, перамоваў з МВФ ды іншымі міжнароднымі структурамі, сур'ёзна спрычыніўся да ўкладаньня эканамічнага разьдзелу Праграмы БНФ.

Маці па адукацыі філёляг, выкладчыца беларускай і расейскай моваў, у Берасьці выкладала расейскую, а пазьней у Менску працавала літаратурным рэдактарам. Таму дома было мноства кніг, і прыахвоціўся я да чытаньня вельмі рана. Недзе з трох ці трох з паловай гадоў, чаму ёсьць дакумэнтальнае пацьверджаньне. На фатаконкурсе абласной газэты «Заря» прыз атрымаў здымак, дзе падчас выезду на возера дарослыя займаюцца сваімі клопатамі, а я на кукішках чытаю газэту, пасьцеленую пад перакус.

Малодшая сястра Алена (адрозна ад мяне) прафэсійна пайшла ў бацьку, яна эканаміст, прафэсар.

Я даволі рана вызначыўся з прыярытэтамі і меркаванай прафэсіяй. Гэта — мовазнаўства.

У Берасьці я вучыўся да 13 гадоў. Школу закончыў ужо ў Менску. Амаль на выдатна. У атэстаце меў адну чацьвёрку — па расейскай мове, за што і не атрымаў мэдаль. Гэтак мне паспрыяла дырэктарка, якая прыйшла з суворыўскай вучэльні. Але не шкадую.

Да залатой моладзі — тусоўкі дзетак начальнічкаў — не належаў, гідзіўся. У старэйшых клясах штолета працаваў рабочым у друкарні Дому друку, за свае грошы купіў радыё «ВЭФ-202» і магнітафон-прыстаўку.

Паступіў на філфак БДУ, на аддзяленьне «беларускай і рускай мовы і літаратуры», бо чыста беларускай спэцыялізацыі там тады не было. Выбар зроблены невыпадкова: ужо з 12–13 гадоў я адчуваў у сабе імпульс нацыянальнай сьвядомасьці, нацыянальнай адметнасьці, разуменьня, што Беларусь — не ёсьць Расея.

Інтэрнэту тады не было. Я рана пачаў слухаць замежныя галасы. Спачатку праз цікавасьць да рок-музыкі, а потым і дзеля альтэрнатыўнай палітычнай інфармацыі. У Берасьці гэта былі толькі польскае радыё, а ў Менску — безупынна глушаныя Бі-Бі-Сі, «Голас Амэрыкі». І ўрэшце — Радыё Свабода.

Добра памятаю, як праз глушылкі, рыхтуючы ў ноч з пятніцы на суботу (каля першай гадзіны) ненавіснае тэхнічнае чарчэньне, я раптам пачуў на 75-м дыяпазоне некалькі беларускіх словаў і зразумеў — вось яна, беларуская служба Радыё Свабода.

Бацька паціху даваў мне чытаць «белы ТАСС» — аналітычныя бюлетэні для службовага карыстаньня пра становішча ў розных краінах, у прыватнасьці, у Польшчы, Чэхіі. Я шмат ведаў пра рэальны стан рэчаў.

І яшчэ. Я карыстаўся чытацкім білетам крыху старэйшага за мяне Сяргея Дубаўца і хадзіў у Ленінскую бібліятэку, куды школьнікаў наагул не пускалі. У беларускім аддзеле чытаў кнігі накшталт «Нацыянал-дэмакраты за працай» — пасквілі 30-х гадоў, шукаючы ў іх праўдзівую інфармацыю пра тагачасныя падзеі. Чытаў кніжкі Алеся Божкі, Леаніда Прокшы, Вацлава Мацкевіча — штатных камуністычных пасквілянтаў 70-х гадоў. Чытаў — і сярод разгромаў нацыянальнай эміграцыі знаходзіў цікавыя мне факты. Дарэчы, з адной з тых кніг я і даведаўся, што БНР мела герб Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг...

Так што на філфак я прыйшоў сьвядомым чалавекам. На той час размаўляў па-беларуску, перайшоў на родную мову яшчэ ў апошніх школьных клясах. І дзёньнік вёў па-беларуску, за што там пісалі «веди дневник как положено». У гарадах тады не было беларускіх школаў.

## Пачатак іншадумства

Недзе на другім курсе маёй вучобы сфармавалася група аднадумцаў: я, Сяргей Дубавец, Сяржук Сокалаў-Воюш, які тады быў проста Сокалаў (Воюш — дзявочае прозьвішча маці). Ён вучыўся ва ўнівэрсытэце на курс пазьней, бо зь першага разу не паступіў як прынцыповы некамсамолец. А я вось камсамольцам быў... Толькі значок меў не чырвоны, як усе, а перарабіў яго на чырвона-зялёны. Хацеў такім чынам прадэманстраваць прыналежнасьць менавіта да ЛКСМБ. Наіўная спроба паказаць нацыянальную адметнасьць. А камсамольцамі былі тады 99% моладзі... Куратарка курсу спрабавала зрабіць мяне камсоргам, але я катэгарычна адмовіўся.

Разам з Дубаўцом і Сокалавым у 1979–1981 гадах мы выпускалі самвыдавецкі бюлетэнь «Люстра дзён», незалежніцкі і антысавецкі. Былі чатыры машынапісныя выпускі. Наклад — 20–25 копіяў, зробленых на машынцы «Белпалку» — часткі ўнутраных войскаў на вул. Чыгуначнай, дзе служыў тады Сяргей Дубавец. Спэцслужбы шукалі, дзе яны друкуюцца, але нікому не магло прыйсьці ў галаву, што ўсё робіцца ў іх пад самым носам. Залёт быў толькі адзін — на наваполацкім заводзе «Палімір», куды праз швагра Сержука Сокалава закідвалі асобнікі выданьня. Дапытвалі Сержука, ціснулі на ягонага бацьку-настаўніка, слабому здароўю якога гэбэшнікі нанесьлі сур'ёзны ўдар. У іх былі падазрэньні, але не было доказаў. Вылічыць крыніцы яны не змаглі.

На той момант з дапамогай Ігара Герменчука (ён акурат працаваў на паліграфкамбінаце, адкуль, рызыкуючы свабодай, выносіў наборныя шрыфты) мы зрабілі падпольную друкарню, былі гатовыя выпускаць новае выданьне, тытул якога «Вястун» ужо быў адліты ў мэтале. Партатыўная друкарня нейкі час нават захоўвалася ў мяне дома. Тым ня менш пра канспірацыю мы дбалі. Але ратавала ня толькі гэта. Мабыць, нехта дбаў пра імідж «самай спакойнай рэспублікі СССР», і справу не раскручвалі. Да таго ж наша друкарская дзейнасьць была прытармажаная з прызывам Герменчука ў войска.

Разумеючы, што ёсьць рызыка застацца вузкім колам, мы вырашылі актывізаваць легальную беларускую дзейнасьць, каб пашырыць кола прыхільнікаў. Напрыклад, адраджэньнем беларускіх народных сьвятаў на гарадзкіх вуліцах. Вырашылі адзначыць у Менску Каляды. Нічога падрыўнога ўлада інкрымінаваць нам не магла — гэта ж фальклёр. Маўляў, народная ўлада ня можа паводле вызначэньня перашкаджаць адраджэньню народнай спадчыны...

Сказана — зроблена. Дзякуючы майму (яшчэ ранейшаму) знаёмству з мастакамі Аляксеем Марачкіным і Міколам Купавам удалося значна пашырыць кола нашых аднадумцаў — выйсьці на студэнтаў тагачаснага Тэатральна-мастацкага інстытуту. Так сярод удзельнікаў сьвяточных імпрэзаў зьявіліся Сяржук Цімохаў, Ігар Марачкін, Гэнік Лойка, Генадзь Мацур, Андрэй Радзівонаў, Янка Медзьвядзёў і г.д. Плюс філфакаўцы — Ірына Крук (цяпер Марачкіна), Сяргей Запрудзкі, Алена Амельчыц (цяпер Анісім), матэматыкі (праз Арыну Поўзік, якая стала маёй жонкай), фізыкі, шмат хто яшчэ.

І, вядома, Ларыса Сімаковіч, з якой я выпадкова сустрэўся на лекцыі ў мастацкім музэі. Яна задавала пытаньні па-беларуску, а гэта было своеасаблівым індыкатарам — свая. Пры знаёмстве высьветлілася, што яна кампазытарка і хормайстар. А гэта азначала, што нас навучыць сьпяваць сапраўдны прафэсіянал.

Так нарадзілася «Маўстроўня». Першыя Каляды мы адсьвяткавалі 7 студзеня 1980 году. Сьпявалі для людзей на вуліцы. Зайшлі да Ўладзімера Караткевіча, які жыў у вядомым доме на рагу Маркса і Энгельса, а на выхадзе нас павязала міліцыя. Тады яшчэ міліцыянты ня ведалі, што з намі рабіць, — нейкая калядная зорка, нейкая каза, гавораць па-беларуску...

Словам, нас адпусьцілі, бо ў Караткевіча быў знаёмы палкоўнік з гарадзкога міліцэйскага начальства, і мы пайшлі, па дарозе сьпяваючы, калядаваць у дом на Сурганава, дзе і дагэтуль жыве шмат мастакоў.

Гэта быў баявы хрост «Майстроўні».

З дазволу намесьніка дэкана, якому была вельмі істотная мастацкая самадзейнасьць, два гады мы зьбіраліся на філфаку БДУ, а затым трапілі ў Палац прафсаюзаў.

Ладзілі публічныя выступы проста на вуліцах Менску, ура-



Гуканне вясны

# ПАЛЯВЫМ КАМАНДЗІРАМ

жваючы людзей нязмушанаю беларускамоўнасьцю. Стварылі нефармальны ўнівэрсытэт беларушчыны. Кола нашых прыхільнікаў расло.

«Майстроўня» скончылася, калі мы зладзілі публічную акцыю пратэсту супраць разбурэньня гістарычнага будынку Менскага гарадзкога тэатру (гатэлю Поляка), у якім прагучала першая беларуская опэра і на месцы якога зараз стаіць навадзел — гатэль «Эўропа». 13 чэрвеня 1984 году 13 маладых людзей упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі выйшлі на акцыю пратэсту супраць зьнішчэньня нацыянальнай памяці ды адчулі на сабе ціск дзяржавы.

«Майстроўня» перацякла ў «Талаку». У «Талацэ» вялікую ролю адыгрывалі рамантычны і ахвярны Сяржук Вітушка ды энэргічны і сьмелы Віктар Івашкевіч — абодвух ужо няма сярод нас. А таксама Алесь Суша.

У 1985 годзе нас было толькі трыццаць чалавек. А праз некалькі гадоў ужо многія сотні па ўсёй краіне.



Першая публічная прамова маладога палітыка Вінцука Вячоркі



Вінцук Вячорка з жонкай Арынай і дачкой Ружанай

## Пачатак фронту

Усё рабілася за свой кошт. Са студэнцкіх стыпэндыяў скідваліся на фотарэактывы, паперу, стужкі, стварылі фонд экстранай падтрымкі. Ён дазваляў у 1985 годзе за сьвяткаваньне заплаціць судовыя штрафы.

Мае фотапавелічальнік і чырвоная лямпа працавалі безь перапынку, як і ў іншых сяброў. Гэта цяпер у інтэрнэце можна знайсьці што заўгодна (трэцюю ўстаўную грамату БНР, напрыклад), але найперш нехта быў павінен выцягнуць такія дакумэнты і тэксты са спэцхранаў, сфатаграфаваць, размножыць на фотапаперы.

Былі наладжаныя сувязі зь віленскімі носьбітамі ідэй БНР (Лявон Луцкевіч, Зоська Верас). Зь Вільні вазіліся сотні мэтраў фатастужкі са сфатаграфаванымі перыёдыкай 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя і кнігі з розных архіваў. Той жа прыватны архіў Зоські Верас, дарэчы.

Адзінай вонкавай дапамогай былі 50 рублёў, якія нам як НЗ далі ўкраінскія калегі.

Па ўсёй краіне ў тыя часы ствараліся незалежныя культурніцкія і асьветніцкія структуры, накшталт гарадзенскай «Паходні». Да таго, па разьмеркаваньню па Беларусі разьехаліся людзі, якія цесна супрацоўнічалі зь менскай «Талакой». Пазьней гэта і стала арганізацыйным падмуркам стварэньня БНФ.

Пасля заканчэньня ўнівэрсытэту (1983) я працягнуў займацца навукай, паступіў у асьпірантуру. І па наш дзень захапляюся лінгвістыкай. Прыход у асьпірантуру быў з маленькімі прыгодамі. Мяне мелі разьмеркаваць у Полацак, што, зрэшты, было б някепска. Бываў у гэтым горадзе па 10 разоў у год. А які там асяродак — Сокалаў, Арлоў, Мудроў…

У асьпірантуры я з задавальненьнем займаўся гісторыяй беларускай літаратурнай мовы ў Заходняй Беларусі міжваеннай пары. Але плёнам маёй навуковай дзейнасьці стала найперш сучаснае ўпарадкаваньне клясычнай правапіснай традыцыі Браніслава Тарашкевіча, для якой я прапанаваў назву тарашкевіца. Звод «Беларускі клясычны правапіс» мы з калегамі Зьмітром Саўкам, Зьмітром Санько і Юрасём Бушляковым рыхтавалі некалькі гадоў і выдалі ў 2005 годзе.

Па заканчэньні асьпірантуры выкладаў у Пэдагагічным унівэрсытэце. Час тады быў даволі гарачы (прадчуваньне і пачатак перабудовы), таму вучобу і выкладніцкія высілкі я спалучаў з грамадзка-палітычнай дзейнасьцю.

У 1990 годзе Кастусь Тарасаў, які тады быў у якасьці адказнага сакратара, і Ўладзімер Крукоўскі, мастацкі рэдактар, запрасілі мяне працаваць у часопіс «Спадчына», што быўператвораны з часопіса «Помнікі гісторыі і культуры». Рэдактарам тады быў Іван Чыгрынаў. Наступала новая эпоха, якую мы як маглі набліжалі. З калегамі (Кастусь Тарасаў, Вячаслаў Ракіцкі, Уладзімер Ляхоўскі ды інш.) мы здолелі ператварыць часопіс у вельмі важны інструмэнт той самай нацыянальнай асьветы, якая рабілася раней праз фотапапяркі пад чырвоным сьвятлом. Цяпер у нас была трыбуна. Часопіс «Спадчына» надрукаваў сотні гістарычных, літаратурных, філязофскіх тэкстаў беларускай клясычнай несавецкай традыцыі.

Пачалася эпоха інтэрнэту, і цяпер «Спадчына» аблічбоўваецца, каб заснаваць для маладых, якія ведаюць словы «сайт», «рэсурс» і «фэйсбук» лепш за слова «бібліятэка».

У тым жа годзе я адразу адгукнуўся на прапанову Ўладзіміра Коласа запачаткаваць незалежную беларускую адукацыю. Перш гэта былі нядзельныя курсы, якія хутка ператварыліся ў Беларускі гуманітарны ліцэй. Так што ганаруся, што быў сярод яго заснавальнікаў. Прапрацаваў там шмат гадоў, да моманту, як узначаліў БНФ; уклаў ліцэйскі курс «Гісторыя і культура беларускай мовы».

І яшчэ. Мы зь Пётрам Садоўскім уклалі першыя беларускамоўныя праграмы для дзіцячых садкоў і беларускамоўную чытанку для дашкольнікаў. Раней такога не было ніколі, кніга вытрымала ўжо два выданьні, рыхтуецца трэцяе.

Яшчэ ў Берасьці аднаклясьнікі называлі мяне па мянушцы «Палітык», таму што я чытаў газэты, ведаў усе навіны і прозьвішчы многіх палітыкаў. У тым ліку і замежных.

Напэўна, і гэта паўплывала на жыцьцёвыя арыентыры.

Да самага стварэньня БНФ існавала падпольная «Група Незалежнасьць», якая стаяла на антыкамуністычных і незалежніцкіх падмурках. Мы даволі цесна супрацоўнічалі з літоўцамі і добра разумелі, што беларусам таксама трэба рухацца наперад.

У верасьні 1988 году нас з Алесем Сушам выклікалі на вайсковыя зборы ў Мар'інай Горцы. Напэўна, каб выключыць з актыўнага палітычнага жыцьця. Атрымалася наадварот. Мы яшчэ ўвесну разам зь Віктарам Івашкевічам і Алесем Бяляцкім прыйшлі да высновы, што ў Беларусі трэба стварыць нешта накшталт літоўскага «Саюдзісу». Акурат дарэчы, як мы лічылі, надараўся ўстаноўчы сход таварыства памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў «Мартыралёг».

Так і зрабілі. З Сушам мы зьбеглі туды ў чым былі — у лейтэнанцкай форме, што адразу стала прадметам шэпту — «Армія з намі!». На паседжаньні высьветлілася, што такія ж самыя думкі ў Зянона Пазьняка. У сваім выступе я прапанаваў стварыць нешта большае, чым асьветніцкія структуры, а Пазьняк паставіў на галасаваньне падрыхтаваную раней і падтрыманую Васілём Быкавым прапанову аб утварэньні аргкамітэту руху БНФ «Адраджэньне».

Так у маім жыцьці пачаўся новы эпахальны перыяд. І да 2009 году яму была ахвяраваная большая частка майго жыцьця. Прайшоў я праз усе ўзьлёты і заняпады БНФ. Так склалася, што я ня трапіў у Вярхоўны Савет на выбарах 1990 году. Не хапіла не галасоў, а яўкі, якая была штучна заніжаная камуністычнымі ўладамі на трох выбарчых участках сталічнай вуліцы Валадарскага. Таму я быў, як кажуць, звычайным палявым камандзірам. Фракцыя БНФ актыўна працавала ў парлямэнце, а мы (Івашкевіч, Бяляцкі, Суша, я ды іншыя) працавалі арганізацыйна, трымалі сувязі з грамадзтвам, выконвалі чарнавую працу.

Пра гэта можна распавядаць суткамі. Таму рабіць гэтага не буду. Адзначу толькі, што калі напачатку я абапіраўся на майстроўскія і талакоўскія кантакты, то потым кола знаёмстваў вельмі моцна пашырылася. Сёньня ў кожным раённым, абласным цэнтры ёсьць людзі, да якіх пры неабходнасьці я магу зьвярнуцца.

Многія памятаюць магутныя рабочыя страйкі тых год, рабочыя мітынгі, якія прымалі франтаўскія рэзалюцыі, абвешчаньне незалежнасьці, зьмену дзяржаўнай сымболікі (што асабіста мне важна яшчэ і таму, што на паседжаньні «Талакі» я ўпершыню ў пасьляваеннай Беларусі прачытаў публічную лекцыю пра бел-чырвона-белы сьцяг, за што атрымаў прачуханца ад камуністычных прапагандыстаў і цэлую кампанію выцяў у іхнай прэсе).

Пра зьмену сьцягу над Домам ураду ў мяне ўспамін неадназначны. Зроблена ўсё было пацішу. Мы думалі, што будзе ўрачыстасьць, чырвона-зялёны сьцяг здымуць і аднясуць у музэй, а мы засьпяваем гімн падчас узьняцьця нашага нацыянальнага сьцягу. Нічога падобнага. Уначы адзін сьцяг банальна памянялі на другі. Як сказаў тады Віктар Івашкевіч, «адбылася рэвалюцыя заўхозаў...»

Далей наступілі франтаўскія будні. Былі спачатку посьпехі — незалежная Беларусь набывала нашымі намаганьнямі шанец адбыцца як свабодная дзяржава. Потым — памылкі і паразы.

У 1999 годзе канчаткова стала зразумела, што Зянон Пазьняк з-за мяжы ня можа паўнавартасна рэагаваць на зьмены ў краіне, ствараць абсалютна неабходныя для барацьбы з рэжымам кааліцыі. БНФ хутка губляў свой уплыў на грамадзтва. Сябры ўрэшце ўгаварылі мяне пайсьці на старшынства ў БНФ.

Калі нехта зайздросьціць і называе гэта цёплым месцам, ён моцна памыляецца. Кіраваць палітычнай партыяй, калі яна ў сапраўднай, а не імітаванай апазыцыі да рэжыму, — значыць ісьці на поўнае самаабмежаваньне. Гэта штодзённыя стрэсы і рызыка. У сям'і бываеш рэдка, вольнага часу не бывае па вызначэньню, плюс пастаянныя арышты. І на звычайную працу нікуды не ўладкавацца пасьля такога старшынства.

Калі ў 2007 годзе на пасаду старшыні БНФ пайшоў мой аднадумец Лявон Баршчэўскі, я шчыра парадаваўся, аднак, як высьветлілася потым, зарана. У 2009 годзе да кіраўніцтва партыяй БНФ, на маю думку, прыйшлі людзі, якія не падзяляюць традыцыйных франтаўскіх каштоўнасьцяў. Я не лічу, што зь існым рэжымам можна пра нешта дамовіцца, я перакананы, што Лукашэнка ёсьць не гарант беларускай незалежнасьці, а пагроза ёй. У гэтым маё прынцыповае разыходжаньне зь цяперашнім кіраўніцтвам БНФ. Свабоду і незалежнасьць разьдзяляць нельга.

Падобным са мной чынам зрабілі ўсе, хто ствараў БНФ, і хто такую магчымасьць мае ўвогуле. Упэўнены, каб яна была, побач з намі быў бы і Алесь Бяляцкі. Дарэчы, з ім у 1982 у годзе нас пазнаёміў мастак Мікола Купава. Два месяцы працавалі побач на раскопках Мірскага замку. Прайшлі разам гады супольнай рызыкоўнай падпольнай працы ў савецкі час. Гэтаму чалавеку я веру як сабе і не дарую тым, хто цяпер сьмее яго абражаць.

## Пачатак будучыні

Падчас вучобы ва ўнівэрсытэце я ажаніўся з сваёй аднаклясьніцай Арынай, яна зь сям'і прафэсара Тэхналягічнага інстытуту Паладзія Поўзіка. Нарадзіліся трое дзяцей — Радаслава, Францішак і Ружана. Усе яны вучыліся (а Ружана вучыцца зараз) толькі па-беларуску, так што досьвед змаганьня з чыноўнікамі ад адукацыі ў мяне вельмі добры. Нават у беларускамоўныя дзіцячыя садкі хадзілі.

Радаслава — юрыст і прадпрымальніца. Яна нарадзіла сына Даніка. Так што я — у статусе шчасьлівага дзеда.

Франак журналіст, спэцыяліст у новых мэдыях, ён прысутнічае ў інфармацыйнай прасторы больш, чым я. А Ружана яшчэ вучыцца ў 23-й беларускамоўнай гімназіі.

На жаль, летась раптоўна і заўчасна Арыны ня стала.

Аднак вернемся да грамадска-палітычных рэчаў. Калі ўспомніць савецкія часы, то ў тым жа 1985 годзе, калі толькі пачыналася перабудова, амаль ніхто не мог сабе ўявіць, што Савецкі Саюз калі-небудзь разваліцца.

А мы ў гэта верылі. Як і ў тое, што ў сучаснай улады вельмі падобныя перспэктывы. Беларускую ідэю (лічу сябе верным ёй заўсёды) немагчыма цалкам зьнішчыць. Гэта пыталіся зрабіць і царскія ўлады, і камуністы з фашыстамі. Пад пагрозай яна і сёньня, аднак я ўпэўнены, што той пачварны экспэрымент, які мы назіраем зараз, калі-небудзь абавязкова ганебна скончыцца.

Тое, што рабіла маё пакаленьне змагаючыся за беларушчыну, не было марным. Некалі ўсё адродзіцца зноў.

МУЗЫКА

# ХУЛІГАНЫ БАРОЧНАЙ МУЗЫКІ

Сяргей ПУЛЬША

**Гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» прачнуўся ад пяцігадовай спячкі. Музыкі доўгі час разбіраліся з усялякімі музычнымі сшыткамі і нарэшце выдалі дыск «Santa Maria».**

У новы альбом увайшлі ўвайшлі 13 кампазіцый. Гэта танцы са зборніка «Полацкі сшытак», танцавальныя творы кампазітараў, якія жылі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і дзве песні XIII і XIV стагоддзяў, якія гучаць у перакладзе на беларускую мову з латыні.

Варта адзначыць, што гэтыя твор можна назваць усяго толькі першай часткай дыска. Як распавёў на прэс-прэзентацыі альбома кіраўнік гурта Зміцер Сасноўскі, за пяць «безальбомных» гадоў было назапашана вельмі шмат матэрыялу. Таму музыкі падзялілі матэрыял на дзве часткі. Першая — своеасаблівая палацава-камерная, і ёсць дыск «Santa Maria». «Пасля таго, як мы адыграем гэтую праграму, недзе ўвосень наступнага года, мы збярэмся, каб запісаць другую, застольна-песенную частку», — паабяцаў Сасноўскі.

Акрамя твораў Рэнесанса і барока ў альбом «Santa Maria» ўвайшлі яшчэ дзве адметныя рэчы, якія, як кажа Сасноўскі, «не вельмі ўласцівыя для нашага рэпертуару». «За 14 гадоў існавання гурта ў нас было ўсяго дзве рэлігійныя песні. У альбом «Santa Maria» ўвайшлі яшчэ дзве песні духоўнага зместу, гэта ўласна «Santa Maria» XIII стагоддзя і «Ave Maria», — адзначыў Сасноўскі.

Увогуле, у сярэднявечны было шмат духоўнай музыкі. Але пакуль што «Стары Ольса» аддае перавагу «свецкай» частцы музыкі. Нягледзячы нават на гэта, гурт часцяком запрашаюць зрабіць канцэрты цэрквы — не толькі каталіцкія, але і праваслаўныя, і пратэстанцкія.

Яшчэ альбом адметны тым, што ўпершыню «Стары Ольса» выпускае альбом самастойна.



«Гэта першы альбом, які мы зрабілі без прадзюсараў і без спонсараў. Гэта першы альбом, на які ўплывалі толькі нашы асабістыя эстэтычныя і навуковыя погляды. Знешняга крытэру выканання кампазіцый, падрыхтоўкі альбому і іншых рэчаў, не існавала. Мы запісалі яго самастойна ў фінансавым сэнсе, і адпаведна, не мелі абавязкаў прыслухоўвацца да думак іншых людзей. Адпаведна, мы крыху падраслі ў сэнсе тэхнічнага выканання, навуковага даследавання, паглыблення ў традыцыі XVI–XVII стагоддзя», — кажа Сасноўскі.



Гэта страшнавата, прызнаўся Сасноўскі, бо музыкі рызыкуюць сваімі грашыма. Але, па ягоных словах, колькасць ужо замоўленых дыскаў дае спадзяванні, што альбом як мінімум акупіцца.

Прэзентацыя новага альбому пройдзе ў Мінску, у ДК МАЗ ужо 17 лістапада. Прычым, праграма канцэрту будзе складацца як з першай, запісанай, так і другой, застольна-песеннай, яшчэ не запісанай частцы.

> «Старому Ольсу» яшчэ ёсць чым парадаваць моладзь, і не толькі. Музычныя крытыкі ўжо ахрысцілі новы альбом «сярэднявечным рок-н-ролам»

«Напрыклад, скажыце, якую сярэднявечную песню ведаюць усе музыкі, усе людзі, і амаль усе яе спявалі, некаторыя нават на латыні? Няшмат хто на гэтае пытанне адказвае. Так, гэта «Gaudeamus igitur», так званы студэнцкі гімн. Калі паглядзець, як гэтая песня створаная, і як яна зараз выконваецца, узнікае пачуццё дзікай неадпаведнасці. Бо насамрэч песня «Будзьма весяліцца, пакуль маладыя» — гімн студэнтаў, але гэта гімн па-за межамі навучальнай установы. Гэтая песня стваралася і спявалася ў корчмах, а значыць, толькі па-за вучэбным працэсам. А зараз выходзяць магістры ў шапачках з бубачкамі, прафесара сядзяць… Нібыта, ніхто не ведае, што ў песні пяецца пра тое, што трэба піць віно і любіць жанчынаў, пакуль маладыя, а не пра навучанне», — кажа Сасноўскі.

Песня ў апрацоўцы «Старога Ольсы» будзе выкананая на канцэрце 17 лістапада «абавязкова», адзначыла дударка Марыя Шарый, бо менавіта 17-га будзе Дзень студэнта. Пра што Сасноўскі ўжо забыўся.

Так што «Старому Ольсу» яшчэ ёсць чым парадаваць моладзь, і не толькі.

Зразумела, адным Мінскам прэзентацыя новага альбому не абмяжуецца — гэта будзе сапраўдны «тур у падтрымку альбома». «Гародня, Гомель Кіеў, зараз абмяркоўваецца Магілёў, Полацак, Берасце, Віцебск. Што тычыцца замежнага выканання альбома, то 11–12 студзеня ў Львове, а далей — ужо ў наступным канцэртным сезоне», — паведаміў Сасноўскі.

Між тым, музычныя крытыкі ўжо ахрысцілі новы альбом «сярэднявечным рок-н-ролам». «Мы не зусім сышлі ў рок-н-рол. Я думаю, што дух старадаўнасці ў альбоме прысутнічае. Але ўсе ўжо ведаюць, што «Полацкі сшытак» — гэта маленькія тэмы па чатыры — восем тактаў. І гэта дае магчымасці музыку больш імправізаваць. Таму шмат імправізацый, можа быць, з-за гэтага і яго назвалі рок-н-ролам. Бо рок-н-рол — гэта свабода, варыяцыі на тэму», — адзначыў лютніст Ілля Кульбіцкі.

«Хуліганамі з барочнай музыкі нас называюць ва многіх краінах. Таму што склалася такая непрыемная тэндэнцыя, што барочную музыку выконваюць на класічных інструментах. Але класічныя інструменты некаторыя сфарміраваліся на сто, сто пяцьдзесят, дзвесце год пазней. То бок, гэта не аўтэнтычныя для барока інструменты. Мы граем на інструментах, якія існавалі ў час барочнай музыкі, але не на ўсіх, канешне. І зноў жа, цяжкасць — не скаціцца ў камерную музыку», — адзначыў Сасноўскі.

Карацей, «Стары Ольса» ў чарговы раз здзіўляе аматараў сярэднявечнай музыкі. Пэўна, альбом «Santa Maria» раскупяць хутка. І не толькі з-за таго, што гэта альбом, выдадзены праз пяць год «маўчання» гурта. Шмат хто набудзе яго толькі для таго, каб «хуліганы барочнай музыкі» хутчэй пачалі пісаць новую, застольна-песенную ягоную частку.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1376

Падпісана да друку 08.11.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.